№ 36 (245) 3 верасьня 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# ПРАГРАМА ГАНЧАРЫКА

**Асноўныя палажэньні праграмы адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі.**



Старонка 2.

ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

# Атмасфэра маральнага тэрору

## *Лукашэнка ўзяў курс на нелегітымнасьць*

Парушэньні выбарчага заканадаўства і дыскрымінацыя апазыцыйнага кандыдата набылі нечуваны размах. Лік разгромленых апазыцыйных асяродкаў ідзе на дзясяткі, колькасьць затрыманых агітатараў перавысіла 300. Канфіскоў-валіся тыражы газэтаў "Рабочы", *Президент*, Наша Свабода", "Свабоднае Слова". Таму выбары наўрад ці будуць прызнаныя міжнароднай супольнасьцю свабоднымі, а абраны прэзыдэнт — законным. І Лукашэнка ня можа ня ведаць пра гэта. Значыць, ідзе на нелегітымнасьць сьвядома.

Міліцыя сарвала 12 сустрэчаў У.Ганчарыка з выбарцамі. Прыватную друкарню "Мэджык", што тыражавала незалежныя выданьні ды плякаты Ў.Ганчарыка, фактычна забралі пад кантроль дзяржавы. Пазаўчора быў затрыманы кіраўнік ініцыятывы "Незалежнае назіраньне" Алесь Бяляцкі. Міністар Навумаў у гутарцы з З.Ганчар прызнаў сапраўднасьць рапарту генэрала Лапаціка, у якім гаворыцца пра тое, што зьніклыя палітыкі былі забітыя "эскадронам сьмерці". Паводле ін-фармацыі Ў.Ганчарыка, з мэтай фальсыфікацыі вынікаў надрукаваная дадатковая колькасьць бюлетэняў.

Кампанія замоўчваньня і фальсыфікацыяў праводзіцца пры падтрымцы Масквы. Павал Шарамет расказаў, што "ОРТ мае поўны варыянт запісу тэлеінтэрвію былога начальніка сьледчага ізалятару Алега Алкаева, які валодае зьвесткамі пра "эскадроны сьмерці", аднак "у выніку асабістага ўмяшальніцтва Лукашэнкі і ягонага кантактаваньня з кіраўніцтвам Расейскай Фэдэрацыі пакуль мы ня можам паказаць стужку Алкаева". Шарамет дадаў, што, "наколькі ён ведае, такія ж праблемы ўзьнiклі на НТВ".

БТ і дзяржаўная прэса штодня бесцырымонна скажаюць ня толькі словы кандыдатаў ад апазыцыі, але нават твары. У тэлеперадачах злосна перакручваецца сэнс артыкулаў у незалежных газэтах. У парушэньне нормаў закону колькасьць публікацыяў і перадачаў пра А.Лукашэнку б'е рэкорды. Гэтак, у суботнім нумары "Рэспублікі" яму былі прысьвечаныя сем старонак з васьмі, і на шасьці зь іх былі здымкі А.Лукашэнкі.

Цэнтравыбаркам Ярмошынай маўчыць.

Хто прызнае такія выбары законнымі? Расея.

Ня так важна было, хто стане прэзыдэнтам у выніку гэтай кампаніі. Галоўны нацыянальны інтарэс заключаўся ў тым, што краіна мусіла займець ЗАКОННАГА прэзыдэнта. Пры нелегітымным прэзыдэнту Беларусь робіцца безабароннай перад агрэсіўным расейскім капіталам. Шанцы Лукашэнкі стаць ЗАКОННЫМ прэзыдэнтам на пачатку кампаніі былі прынамсі ня меншыя, чым у адзінага кандыдата. Але, відаць, боязь пройгрышу была настолькі моцнай, а грамадзянскае пачуцьцё — слабым, што той збаяўся сумленных выбараў. Улады стварылі атмасфэру маральнага тэрору ў грамадзтве.

Сацыялягічныя апытаньні паказваюць, што рэйтынг Лукашэнкі застыў на мяжы 50% і за тыдзень да выбараў так і ня змог яе перакрочыць. Большасьць выбарцаў параненейшаму хоча галасаваць або за альтэрнатыўных кандыдатаў, або супраць усіх. Калі на апошнім тыдні і ў дзень галасаваньня ўлады пойдуць на новыя рэпрэсіі і парушэньні заканадаўства аж да адкрытага фальшаваньня вынікаў, Беларусь пачне XXI стагодзьдзе так, як яна скончыла XX-е — без законнага прэзыдэнта.

Але на любога Фухіморы рана ці позна знаходзіцца свой Таледа. Наяўнасьць Расеі пад бокам нічога ў гэтым законе гісторыі не зьмяняе.

Б.Т.




ПЭН-ЦЭНТАР

## Сьмелыя паасобку, асьцярожныя разам

**Беларускі ПЭН-цэнтар быў створаны ў 1989 г. У ягоным складзе 54 пісьменьнікі, сярод якіх — Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Сьвятлана Алексіевіч, Уладзімер Арлоў. Абавязак ПЭН-цэнтру — абарона правоў пісьменьнікаў і журналістаў. Ва ўмовах умацаваньня аўтарытарызму, увядзеньня ўладамі цэнзуры і перакрываньня кіслароду беларускай культуры роля Беларускага ПЭН-цэнтру можа аказацца абсалютна ўнікальнай. Таму перавыбары кіраўніцтва ПЭНу на наступным тыдні для сьвету культуры ня менш важныя за выбары прэзыдэнта. За апошнія гады вывезьлі зь Беларусі — далей ад бяды — Быкава, Разанава, Алексіевіч, Някляева. Мо так усіх перавязуць?**



Карласа Шэрмана на пасадзе кіраўніка ПЭН-Цэнтру мае зьмяніць Адам Мальдзіс.

Тэма нумару — старонка 8.

10 год незалежнасьці

## Два сусьветы і Вялікі Брат

**Пра 10-годзьдзе беларускае незалежнасьці ў мітусьні выбарчае кампаніі забыліся — не да таго. Хоць такі кавалак часу — 10 гадоў! Ёсьць пра што падумаць. Рэдакцыя замаўляла артыкулы пра вынікі 10 гадоў розным аўтарам. "Ня пішацца пакуль", — адмаўляліся ўсе.**

**Суседнія краіны сьвяткавалі першы юбілей ганарліва і з размахам. У тых раёнах Беларусі, дзе прымаюцца праграмы Ўкраінскага і Літоўскага тэлебачаньня, можна было паглядзець тэлемасты, дасье, дакумэнтальныя фільмы, прысьвечаныя 10-годзьдзю.**



**Мы друкуем артыкул Міколы Рабчука, прысьвечаны вынікам дзесяцігодзьдзя для Ўкраіны, ня толькі зь цікавасьці да становішча ў суседзяў. Ва Ўкраіне, як у люстэрку, Беларусь можа бачыць сябе. Калі б у нас да ўлады прыйшло лібэральнае крыло лукашэнкаўскае адміністрацыі, падабенства магло б стаць абсалютным. Бо і нашае грамадзтва падзеленае на свае два сусьветы, толькі Вялікі Брат нашмат мацней трымае ў руках Беларусь, чым завялікую для ягоных абдымкаў Украіну.**

Працяг на старонцы 4.

**анонс**

**10 верасьня "Наша Ніва" першая паведаміць сваім чытачам вынікі прэзыдэнцкіх выбараў.**

У наступным нумары "НН" Вы знойдзеце таксама камэнтары, ацэнкі падзеяў, прагнозы. Шукайце першы нумар новай пяцігодкі ў шапіках "Белсаюздруку" і "Белпошты"!



## Праграма Ганчарыка

# Дабро Вашаму дому!

**Газэты "Звязда" і *Советская Белоруссия* здолелі адцэнзураваць нават тую мізэрную інфармацыю, якую кандыдат ад апазыцыі меў права надрукаваць у іх паводле закону. Яны патлумачылі гэта тым, што "ў тэкст тэзысаў былі... ўключаны сьцьвярджэньні, якія ўтрымліваюць агульную і суб'ектыўную крытыку іншых кандыдатаў у Прэзыдэнты". Гэта не перашкодзіла ім побач надрукаваць заяву С.Гайдукевіча, дзе ён, ня стрымліваючы сябе ў выразах, аблівае брудам У.Ганчарыка. Дротавая сетка "Беларускае Радыё" была адключаная ў некаторых раёнах рэспублікі на час апошняга выступу Ў.Ганчарыка. Таму мы палічылі патрэбным коратка выкласьці тут асноўныя палажэньні праграмы адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі.**

У.Ганчарык лічыць, што першачарговай праблемай новага прэзыдэнта будзе эканоміка, а таксама перааdoленьне расколу нацыі, аб'яднаньне яе. У.Ганчарык не зьбіраецца ўсё ламаць, каб потым адбудаваць нанова. Паступальны рух павінен ісьці на аснове таго, што ўжо існуе.

### ЭКАНОМІКА

Сярэдні заробак у Беларусі павінен быць ня 100, а 300 даляраў. Цяпер ён нізкі, бо, выплочваючы 1 рубель заробку, прадпрыемства аддае дзяржаве 4 рублі ў выглядзе падаткаў. Потым зьдзіўляемся, чаму "ніхто не працуе". Для таго, каб людзі добра працавалі, ім трэба плаціць. Гэта асноўны закон эканомікі. Зьнізіць падаткі, зьняць усе перашкоды на шляху да актыўнасьці грамадзянаў і прадпрыемстваў, стварыць спрыяльныя ўмовы для прыцягненьня інвэстыцыяў — вось шлях да зьменаў без узрушэньняў. Будуць скасаваныя ўсе неабгрунтаваныя абмежаваньні — пачнуць развівацца ўсе формы ўласнасьці. Будзе стабілізацыя рубля. Усе грошы павінны быць у бюджэце — празрыстым, кантраляваным ня толькі прэзыдэнтам, але й парлямэнтам.

### ПОШУК ЗЬНІКЛЫХ ЛЮДЗЕЙ

Кажуць, што ў нас моцная ўлада, а тут людзі зьнікаюць, і ня можам знайсьці. У такім выпадку альбо гэтая ўлада слабая, альбо яна сама мае дачыненьне да зьнікненьняў, і тады вінаватых трэба судзіць. Дасьледаваньне гучных справаў і пакараньне вінаватых — справа гонару будучага прэзыдэнта.

### КАНСТЫТУЦЫЯ

Трэба забясьпечыць незалежнасьць судовай улады, даць свабоду вытворцам, рэабілітаваць незаконна абвінавачаных, звольненых. Далей сапраўды можна будзе правесьці зьмены ў Канстытуцыю, абмежаваць уладу прэзыдэнта і ўзмацніць паўнамоцтвы парлямэнту, адбудаваць мясцовае самакіраваньне. Толькі пасьля канстытуцыйнай рэформы можна пераабраць парлямэнт.

### СЫМБОЛІКА

Для пачатку трэба прызнаць бел-чырвона-белы сьцяг і "Пагоню" за нацыянальную сымболіку, а потым працаваць з грамадзкай думкай, каб прымірыць усе пункты гледжаньня. Нельга дапусьціць, каб зьмена дзяржаўнай сымболікі зноў раскалола грамадзтва.

### МОВЫ

Ніхто нікога не павінен прымушаць размаўляць ані па-расейску, ані па-беларуску, але родную мову трох чвэрцяў грамадзянаў краіны трэба шанаваць. Таму на дзяржаўным узроўні павінны быць створаныя ўсе ўмовы для таго, каб грамадзянін мог размаўляць, атрымліваць адукацыю, слухаць навіны як на беларускай, так і на расейскай мове.

### САЮЗ З РАСЕЯЙ

Добрыя стасункі з Расеяй зьяўляюцца вельмі важнымі для нашай краіны. Гэтыя стасункі трэба развіваць, паляпшаць. У першую чаргу неабходны эканамічны саюз, бо за апошнія сем гадоў у эканоміцы мы значна адсталі. Адносіны Расеі й Беларусі ў будучым мусяць быць сяброўскія, партнэрскія, у рамках Канстытуцыі Беларусі і на ўмовах абароны эканамічных і палітычных інтарэсаў Беларусі, бяз страты незалежнасьці.

### АДНОСІНЫ З ЭЎРОПАЙ І АМЭРЫКАЙ

Мы павінны аднавіць давер і сяброўскія адносіны з Захадам, вывесьці



IREX-PROMEDIA

Беларусь з тупіку ізаляцыі. Мы не павінны мець ворагаў ані ў Эўропе, ані ў Амэрыцы. Там ніхто не чакае нас з шырокімі абдымкамі, але мы гэтага і не патрабуем. Мы папросту будзем супрацоўнічаць, гандляваць з усімі, хто гатовы да гэтага.

### ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ПРАБЛЕМА

У.Ганчарык за тое, каб вярнуць чарнобыльскія ільготы.

### МЭДЫЦЫНА

З-за рэшткавага фінансаваньня мэдыцына сталася, фактычна, платнай. Дзяржава абавязаная вырашыць гэту праблему, зрабіўшы медыцынскае абслугоўваньне як даступным, так і сучасным. Важна пры няцьць таксама дзяржаўную праграму па барацьбе з п'янствам. Але не ў такім выглядзе, як у гады перабудовы. П'янства немагчыма забараніць, але можна прапанаваць чалавеку жыцьцё, занятні й інтарэсы, вартыя чалавека.

**Праграма Ў.Ганчарыка дапаўняецца падрыхтаваным плянам практычных дзеяньняў будучага ўраду, які, у выпадку перамогі Ў.Ганчарыка, мае ўзначаліць Сямён Домаш. Больш аб праграме можна прачытаць на Інтэрнэт-сайце www.goncharik.org**



## З усёй краіны

### Выракліся бацькі

**26 жніўня два сябры БПСМ у Дзятлаве (Гарадзеншчына) у знак пратэсту супраць падтрымкі гэтай арганізацыяй на прэзыдэнцкіх выбарах А.Лукашэнкі спалілі на прыступках райкаму БПСМ свае пасьведчаньні й далучыліся да дзятлаўскай суполкі Маладога Фронту.**

**Зьміцер Чаргнель, Дзятлава**

### Студэнтаў у пушчу

**Адміністрацыя менскіх ВНУ цішком выдаляе студэнтаў з гораду на час выбараў.** Так, Унівэрсытэт культуры выпраўляе студэнтаў на практыку з 6 да 12 верасьня. На час выбараў інтэрнат зачыняецца на рамонт — студэнты ня зь Менску будуць вымушаныя зьехаць дахаты і прагаласаваць датэрмінова або адмовіцца ад удзелу ў галасаваньні. На 10 верасьня заплянаваная абавязковая экскурсія студэнтаў у Налібоцкую пушчу.

**Б.Т.**

### FM-Гомель

**Пазаўчора Гомельскае гарадзкое радыё выйшла ў этэр у FM-дыяпазоне.** Дагэтуль яно вяшчала толькі па правадной сетцы. Штодзённы аб'ём вяшчаньня складзе 6 гадзінаў: уранку і ўвечары. Гэта другая FM-станцыя ў Гомелі. Радыё-экспрэс "Гомельская хваля" была адкрытая 13 жніўня абласным тэлерадыёаб'яднаньнем. Прыватных няма.

**Паводле БелаПАН**

## Пацярпелыя за Беларусь

25 жніўня ў Бабруйску затрымалі "зуброўцаў" Віталя Красьнеўскага, Эдуарда Гранявецкага й Аляксандра Фядоцьева. Раніцай 25 жніўня ў Віцебску быў затрыманы галоўны рэдактар газэты "Витебские деловые новости" Ігар Несьцераў, які нес дахаты кампутарны дыск з новым нумарам газэты Яго вінавацяць у супраціўленьні работнікам міліцыі й дробным хуліганстве. 27 жніўня тамсама быў затрыманы актывіст КХП-БНФ Уладзімер Плешчанка У Глыбокім 27 жніўня за распаўсюджваньне налепак затрымалі двух "зуброў"-Зьміцроў: Лупача і Курцэвіча У Чэрыкаве былі затрыманыя два невядомыя валанцеры выбарчага штабу адзінага кандыдата Знойдзеная пры іх агітацыйная прадукцыя канфіскаваная. У Магілёве "зуброўцы" спрабавалі прайсьці ў будынак аблвыканкаму, дзе адбывалася адмысловая нарада У выніку ў розных пастарунках гораду апынуліся 23 чалавекі, якіх, штопраўда, амаль адразу паадпускалі 28 жніўня ў Магілёве падчас акцыі "Ланцуг неабыякавых людзей" былі затрыманыя сп.Каліта, Селіванаў і Надзея Сулейманава (апошнюю будуць судзіць сеньня). У Клімавічах за перадвыбарчую агітацыю была затрыманая Галіна Васільчанка. Старшыня Клімавіцкага райвыканкаму Канавалаў гвалтоўна зацягнуў яе ў службовы аўтамабіль "Волга", адвёз у Клімавіцкі РАУС і "здаў" міліцыянтам У Ашмяне за перадвыбарчую агітацыю затрымалі Пятра Явідовіча У Менску 31 жніўня, падчас пэрформансу "Дзень невядомага зампаліта", затрыманыя маладафронтаўцы Алесь Пацееў, Міхась Шаўцоў, Андрэй Дзенісевіч, Вікторыя Радзіеўская і Віктар Прастакоў, а таксама сацыял-дэмакраты Мікола Прыварнікаў ды Сяргей Марцалеў. У Магілеве міліцыянты тройчы затрымлівалі лідэра мясцовых "зуброў" Яўгена Драбезку. І кожны раз адпускалі — не было да чаго прычапіцца. У Бабруйску затрымалі Ірыну Качан, Тацяну Машкоўскую і Вадзіма Лісоўскага, якія выставілі пікет у падтрымку адзінага кандыдата. 1 верасьня ў Менску былі затрыманыя "для праверкі дакумэнтаў" Алесь Бяляцкі, Генадзь Таляронак, Алесь Катляроў і Павал Севярынец. У той самы дзень падчас футбольнага матчу Беларусь—Украіна былі зьбітыя міліцыянтамі заўзятары-маладафронтаўцы Іван Тамашэвіч, Зьміцер Касьпяровіч, Алег Крулякоўскі, Міхал Шарамет, Віталь Кошалеў, Міхась Шаўцоў, Дзяніс Мархаток, Віктар Шляхцін, Алесь Паўлаў, Алесь Раманчук, Сяргей Садзюковіч, Васіль Макееў, Мікалай Гулецкі, Зьміцер Прошкін, Яўген Івашкевіч, Цімох Атрошчанка, Алесь Васілеўскі, Вадзім Саранчукоў

# Ганчарык

**Учора на Кастрычніцкай плошчы Менску, пасярод традыцыйна-нечаканага "восеньскага кірмашу", адбылася сустрэча Ўладзімера Ганчарыка з выбаршчыкамі.**

Людзей, сярод якіх была значная колькасьць рабочай клясы, сабралася тысячы са тры. Над імі гойдаліся бел-чырвона-белыя сьцягі, сінія сьцягі прафсаюзаў, а зуброўскія харугвы міла суседзілі з чырвонымі савецкімі.

Як толькі Ганчарык пад ухвальныя воклічы натоўпу ўскочыў на імправізаваную трыбуну, распагодзілася. Забягаючы наперад, скажам, што праз паўтары гадзіны, калі Ганчарык сышоў, сонца таксама схавалася за хмары.

Распачаў сустрэчу Аляксандар Дабравольскі. Ён распавёў пра адзінага кандыдата і патрэбу зьяўленьня на выбарчых участках 9 верасьня. Потым выступіў сам Ганчарык, якога віталі бурнымі авацыямі. Сказаўшы колькі словаў па-беларуску, зьбіўся на расейшчыну. Тэзысы вядомыя: вольная і квітнеючая Беларусь, шчасьлівая сьветлая будучыня. Будзе прафэсійнае войска, міліцыя ня будзе такой велізарнай, натуральна, ня будзе ніякіх эскадронаў сьмерці. Працоўныя месцы ня будуць скарачацца, калгасы — разганяцца, будзе ў межах дазволенага прыватная ўласнасьць на зямлю. Паабяцаў росквіт нацыянальнай культуры і вяртаньне страчаных укладаў, калі не грашыма, дык таварамі. Паабяцаў таксама падтрымліваць спорт, не будаваць лядовых палацаў, заявіўшы:



IREX-PROMEDIA

"Я на лыжах па асфальце бегаць ня буду".

Людзі ў пытаньнях непакоіліся накont магчымых фальсыфікацыяў у часе датэрміновага галасаваньня. Прыйшла цыдулка і наступнага зьместу: "У Валожынскім раёне калгасьнікаў сабралі лукашэнкаўскія агітатары і заявілі, што калі людзі не прагаласуюць за дзеючага прэзыдэнта, то каровы не атрымаюць сена. Адна 78-гадовая бабуля слушна заўважыла: "Хай мая карова лепш здохне, чым будзе есьці лукашэнскае сена".

Выступілі Чыгір, Палевікова,

# Авечая скура спэцслужбаў

**На мінулым тыдні апазыцыйныя СМІ распаўсюдзілі заяву сьледчага КДБ Генадзя Вугляніцы й актывіста арганізацыі "Край" Андрэя Жарнасека, якія сьцьвярджаюць, што целы Ганчара і Красоўскага знаходзяцца ў джыпе, закапаным пад Бягомлем, непадалёк ад вайсковай часткі.** Што гэта — спэцапэрацыя "Краю" ці правакацыя КДБ, скіраваная на яшчэ большую дэзарыентацыю грамадзтва? Беларус, якая за апошнія гады звыкла да разнастайных спалучэньняў неспалучальнага, не зьдзівіў сымбіёз спэцслужбіста і байца патрыятычнае арганізацыі. Вугляніца ідэальна пасуе да ролі апазыцыйнага кадэбіста ўжо хоць бы таму, што ён зяць Радзіма Гарэцкага. І акадэмік дае яму самую станоўчую характарыстыку: "Хлопец станоўчы — такі капітальны... Я яму веру". Невядома, ці паверыў бы Вугляніцу стрыечны дзед ягонае жонкі — Максім Гарэцкі, якога такія станоўчыя капітальныя хлопцы выправілі на той сьвет.

Калі ня можаш быць на баку моцнага, хочацца, каб моцны быў на тваім баку. Таму гэтак упарта ў апазыцыйным асяродзьдзі трымаюцца чуткі, нібыта беларускія спэцслужбы — супраць Лукашэнкі й інтэграцыі з Расеяй, нібыта "афіцэрскі кодэкс гонару" не дазваляе ім ісьці "супраць народу". Дазваляў, аднак, у 30-я — з Гарэцкім, у 60-я — зь Сідарэвічам, у 90-я — з Адамовічам... Дый КДБ, па сутнасьці, звычайная дзяржаўная ўстанова, а ці многа адкрытых апазыцыянэраў, скажам, у райана альбо ў калгаснай канторы?

І ўсё ж, памкненьні нацягваць авечую скуру на нашыя спэцслужбы працягваюцца. Дык чаму б ім не скарыстацца гэтым?

Радзім Гарэцкі, акадэмік, у інтэрвію для Радыё Свабода пра свайго зяця Г. Вугляніцу: **"Вельмі, разумееце, хлопец станоўчы — такі капітальны, я б сказаў. У нейкую афэру ён не павінен быў улезьці. Я гэта і па тэлебачаньні казаў, што я яму веру".**



**На здымку зьлева направа: Андрэй Жарнасек, лідэр краёўцаў Вадзім Кабанчук, лідэр Маладога Фронту Павал Севярынец, былы палітвязень Вадзім Лабковіч.**

# Арганізацыя "Край": "Джып можа быць закапаны на большай глыбіні"

**З карэспандэнтам "НН" зьвязаліся прадстаўнікі Спартова-патрыятычнай арганізацыі "Край", каб пракамэнтаваць апошнія "касэтныя скандалы" вакол зьніклых людзей. "Краёўцы" бяруць на сябе адказнасьць за выкрыцьці, зробленыя Вугляніцам і Жарнасекам і за праўдзівасьць гэтых людзей. Тым самым, яны рызыкуюць аўтарытэтам сваёй арганізацыі.**

**"НН": Вы неаднойчы згадвалі пра наяўнасьць у шэрагах "Краю" супрацоўнікаў сілавых структураў, што спачуваюць апазыцыі. А ці ня мог актывіст "Краю" Андрэй Жарнасек, які разам са сьледчым КДБ Вугляніцам сьведчыў пра лёс зьніклых палітыкаў, выявіцца адным з такіх людзей?**

**"Край":** Калі ўважліва глядзець тую відэакасэту, відаць: Жарнасек не называўся супрацоўнікам КДБ. Сваю пасаду назваў Генадзь Вугляніца, Андрэй — толькі сваё імя. Хадзілі чуткі, што ён раней служыў у спэцпадразьдзяленьні "Альфа", але гэта няпраўда. Папросту нашая арганізацыя — зачыненага кшталту, таму людзі з багатай фантазіяй часам дадумваюць дэталі.

**"НН": Ці можна верыць Вугляніцу?**

**"Край":** Ён працаваў і з нашай арганізацыяй. Таксама даходзіла да запалохваньня, да пагрозаў падкінуць нам наркотыкі... Ніхто з "краёўцаў" тады не зламаўся. На самым нізавым узроўні арганізацыі КДБ меў пару інфарматараў. Але й тых мы неўзабаве выкрылі.

**"НН": З Вашых тлумачэньняў вынікае, што Жарнасек "пераврэрбаваў" Вугляніцу на Ваш бок?**

**"Край":** Мы ўвесь час спрабавалі размаўляць з тымі, хто выклікаў нас для "прафіляктычных гутарак", з Генадзем Вугляніцам таксама. Спачатку не было бачна вынікаў тых размоваў. Але ў 2000-м ужо былі справы па зьнікненьнях людзей, якія мелі вельмі вялікі рэзананс. Афіцэры КДБ выдатна ўсё разумеюць. Ім ня трэба тлумачыць, што адбываецца ў Беларусі. Мы знайшлі паразуменьне з Вугляніцам, а шэраг нашых канкрэтных справаў канчаткова пераканаў яго, што з намі можна супрацоўнічаць.

**"НН": Дзе зараз знаходзяцца аўтары відэакасэты?**

**"Край":** За межамі Беларусі. І зь імі ўсё добра. А то КДБ распаўсюджваў інфармацыю, быццам Жарнасек Вугляніцу выкраў. Гэта лухта. Мяркую, ужо ў хуткім часе яны пацьвердзяць праўдзівасьць сваіх словаў, сказаных перад відэакамэрай.

**"НН": Жарнасек і Вугляніца кажуць, што міліцыянты з Партызанскага РУУС сталіцы сканфіскавалі нейкае абсталяваньне, неабходнае Вам для працы.**

**"Край":** Так, мы мелі вельмі добры мэталадэтэктар, які "адчувае" мэталёвыя прадметы на глыбіні да 6 мэтраў, а таксама прыборы начнога бачаньня, радыёстанцыі, камуфляжы. Усё гэта было патрэбна для працы на паласе перашкодаў, дзе закапаная тая машына. Паласа перашкодаў месьціцца амаль ля самай вайсковай часткі, і мы выдатна разумелі, як рызыкуем, працуючы там. У яме мы, з дапамогай прыбору, выразна разгледзелі контур аўтамабіля. А таксама — абрыў, які сьведчыў, што ў яму заяжджаў БТР, якім зьверху плюшчылі джып. Потым мы у двух розных месцах ямы пракапалі шурфы, і прыблізна на аднолькавай глыбіні сапёрная рыдлёўка грукала па мэтале.

**"НН": Чаму тады журналісты, што езьдзілі туды з выязной групай сьледзтва, нічога не пабачылі? БТ вельмі апэратыўна паказала гэтае "расчараваньне прэсы".**

**"Край":** Па-першае, на тое яно і БТ — што яшчэ можа паказаць тэлебачаньне рэжыму? Па-другое, гэтая банда ўжо замяла сьляды. Яны выкапалі зь ямы аўтамабіль і перахавалі. А мо джып і дагэтуль знаходзіцца ў яме, але ляжыць на большай глыбіні, чым тая, на якую пракапалі й паказалі журналістам. Улічым таксама, што прыбор, якім карысталіся сапёры й сьледчая брыгада, што выяжджалі пад Бягомль, "б'е" толькі на глыбіню да 1,5 мэтраў. Дзяржава мае й лепшае абсталяваньне, але ўлада сёньня не зацікаўленая ў ягоным прымяненьні: ідзецца пра простыя доказы злачыннай дзейнасьці гэтай улады.

**Гутарыла Тацяна Сьнітко**

## Ня веру!



ПАВАЛ КАРНАЗЫЦКІ - былы лідэр Маладой Грамады, палітычны ўцякач. Жыве ў Кіеве. У 1997 г. кадэбісты Чыж і Вугляніца шантажавалі яго, дабіваючыся згоды на супрацоўніцтва са спэцслужбамі. Чыж неўзабаве скончыў жыцьцё самагубствам. Вугляніца ўсплыў у "касэтным скандале".

**Павал Карназыцкі: Мяне па-сапраўднаму ўразіла толькі тое, што цесьць гэтага чалавека — Радзім Гарэцкі... Калі мяне выклікалі ў КДБ, Вугляніца казаў: ты нават не здагадваешся, хто ў мяне цесьць. Увогуле, складалася ўражаньне, што гэты чалавек толькі хоча падацца добранькім, але варта было яго трохі раззлаваць — і ён адкрываў сапраўдны твар. Вугляніца — не беларускага паходжаньня, ён аднекуль з Расеі быў камандзіраваны. Я ня веру, што ў Вугляніцу раптам прачнулася сумленьне. Дзе ён быў тады, калі скончыў жыцьцё самагубствам Чыж? (Малады гэбіст зваліўся з даху пры нявысьветленых абставінах. Акрамя афіцыйнай вэрсіі самагубства, па Менску хадзілі чуткі, нібы яму "дапамаглі" — "НН".) Чаму маўчаў тры гады? Яшчэ тады Вугляніца папярэджваў мяне, што будзе фізычна вынішчацца апазыцыя, казаў пра "чорныя сьпісы" і "эскадроны сьмерці". Казаў, што я таксама патрапіў у сьпіс на зьнішчэньне, і толькі дзякуючы яму ня буду зьнішчаны. У шчырае яго прызнаньне па поклічы душы — ня веру!**

## Або—або



СЯРГЕЙ АНІСЬКА, падпалкоўнік КДБ у адстаўцы, цяпер працуе ў газэце "Беларускі час", разважае пра "кодэкс гонару" супрацоўніка спэцслужбаў:

**Кодэкс гонару бывае толькі асабісты. Ён у душы чалавека, або яго ўвогуле няма. На маю думку, кодэкс гонару супрацоўніка спэцслужбаў у тым, каб працаваць у рамках закону, Канстытуцыі, права ўвогуле. У Беларусі так не атрымліваецца. У нас многія супрацоўнікі працуюць па прынцыпе "у каго паўнейшы...". Хоць у іх ёсьць магчымасьць не выконваць супрацьзаконных загадаў — міліцыянты й гэбоўцы падначальваюцца вайсковаму Статуту, дзе пазначанае права адмаўляцца ад выкананьня загаду, калі ён супярэчыць закону. На практыцы я ня ведаю ў Беларусі ніводнага такога прэцэдэнту. Калі людзям не падабаецца загад, яны ціха яго сабатуюць або кладуць на стол рапарт на звальненьне "па стане здароўя", "па сямейных абставінах". Або выконваюць загад.**

# на кірмашы

Лявонаў. Казлоўскі сказаў, што яго зьдзівіла зьяўленьне ў тэлевізары Лукашэнкі ў генэральскай форме. Вячорка распавёў пра пазаўчорашні футбол і зьбіцьцё юнакоў зь бел-чырвона-белымі сьцягамі. "Гэта не беларусы прапусьцілі два мячы, а Лукашэнка, — абвясьціў Хашчавацкі, — а трэці гол мы з Уладзімерам Іванавічам заб'ем 9 верасьня, і адыграць той мяч Рыгоравіч ужо ня здолее". Па-хвацку выступіў Някляеў: прызнаўся, што гэта ён, задоўга да зьяўленьня Лукашэнкі, напісаў вершык "Стаю на асфальце Ў лыжы абуты: Ці лыжы ня едуць, Ці я вальтануты". Сяргей Калякін заклікаў усіх беларусаў зьяднацца — нацыяналістаў з камуністамі, пэнсіянэраў з маладымі — у імя самазахаваньня нацыі. "Праз пяць год мы будзем у два разы бяднейшыя, калі цяперашняя ўлада захаваецца", — зазначыў.

З асаблівай увагай выслухалі прысутныя паведамленьне розных выступоўцаў пра тое, што МАЗ патроху пачалі прадаваць Расеі. Ганчарык падкрэсьліў, што за Лукашэнкам падобны лёс чакае ўсю беларускую прамысловасьць, бо сам Лукашэнка ня дасьць рады гаспадарцы.

Бракавала гарачага Севярынца, але ягоны сьцяг падхапіў Дабравольскі, што зычна заводзіў публіку. Над плошчай неслася: "Ганчарык" і "Жыве Беларусь". Такі б голас ды ў суботу на стадыёне!

Лябедзька распавёў пра выступ Лукашэнкі перад вэтэранамі, дзе той, паклаўшы руку на сэрца, пранікнёным голасам казаў: "Я вас панімаю, бо мой бацька загінуў на фронце".

Зьміцер Бартосік выканаў свае шлягеры "Пра арганічныя ўгнаеньні" і "Гандураскі сэрыял". Па выступе Лявонава на сцэну выйшлі дзьве дзяўчыны (дуэт "Жанэт") і прасьпявалі дзьве песьні па-расейску. Народ пачаў паціху разыходзіцца.

Дзяўчаты заклікалі моладзь зьявіцца на выбары менавіта 9 верасьня. Гэта слушны заклік, бо кіраўніцтва БДУ і іншыя рэктары робяць усё мажлівае, каб выперці студэнтаў у гэты дзень з гораду. 7—8 верасьня заняткі мусяць быць адмененыя, мажліва, зачыняцца на рамонт і інтэрнаты. Дэканам дадзенае ўказаньне, каб 70% студэнтаў прагаласавала датэрмінова.

Выступоўцы на працягу ўсёй імпрэзы падкрэсьлівалі, што галасаваць трэба толькі 9 верасьня, інакш труба. Яны ж заклікалі сабрацца ўвечары ў нядзелю на Кастрычніцкай плошчы (Лябедзька назваў дакладны час — 20.05), каб разам дачакацца вынікаў, якія абвесьціць Цэнтравыбаркам.

**Эдвард Людовіч**

## Наступныя выбарчыя стрэчы адбудуцца:

**4 верасьня а 9.30 у Менску на Кастрычніцкай плошчы** з партрэтамі зьніклых (Лукашэнка страчаецца ў Палацы Рэспублікі з "правільнымі" выбарцамі).

**5-га а 17-й ва ўсёй краіне** пройдуць сустрэчы з Ганчарыкам ці ягонымі даверанымі асобамі. У Баранавічах будзе Казлоўскі, у Бабруйску — Марыніч, у Барысаве — Палевікова, у Берасьці — Мірочнік, у Віцебску — Гіруць, у Гомлі — Скрыган, у Горках — Лявонаў, у Горадні — Лябедзька, у Жлобіне — сам Ганчарык з Калякіным, у Жодзіне — Ярашук, у Лідзе — Бухвостаў, у Магілёве — Хадыка, у Маладэчне — Сабалеўскі, у Наваполацку — Бураўкін, у Пінску — Кудзінаў, у Слуцку — Чыгір, у Салігорску — Бойка. Таксама сустрэчы пройдуць у Слоніме, Ваўкавыску, Смургонях, Кобрыні, Воршы, Мазыры, Сьветлагорску, Рэчыцы. Акрамя даверанных асобаў будуць прадстаўнікі партыяў і грамадзкіх арганізацыяў. Плянуецца ўсе сустрэчы правесьці адначасова, а 17-й, на цэнтральных плошчах.

**8 верасьня ў Менску з 18.00 да 22.00 на пляцы Бангалор** сустрэча з адзіным кандыдатам і лідэрамі кааліцыі.

**9 верасьня ў 20.05** на Кастрычніцкай плошчы сустрэча з адзіным кандыдатам і лідэрамі кааліцыі.

## Апытаньне "НН"
# Ці пагадзіліся б мець зяцем кадэбіста?

**Марыя Паўлаўна, 44 гады, настаўніца:**

— Так, я хацела б, каб маім зяцем быў кадэбіст. Яны добра адукаваныя, падцягнутыя, сумленныя, пры кватэры й грашох. Гэта стабільная прафэсія. Я б і сама пайшла за якога палкоўніка.

**Алег, 36 год, юрыст:**

— Пару год таму аддаў бы дачку за гэбоўца, а цяпер не. Там ня можа быць чыстых людзей. Вельмі брудныя справы творацца. Палітыкі зьнікаюць, вышук палітычны вядзецца. Яны вымушаныя выконваць любыя загады. Мой зяць павінен быць нармальным чалавекам.

**Гары Паганяйла, праваабаронца:**

— Я сваёй дачцэ даў зразумець, што яна самастойная ў сваім выбары. Закахалася ў чэкіста — ідзі за чэкіста. У самых кепскіх структурах ёсьць людзі прыстойныя! Сам факт прыналежнасьці да пэўнай структуры яшчэ ні пра што ня кажа.

Працяг на старонцы 9.

# Два сусьветы і Вялікі Брат

Мікола Рабчук

У 1990 г., калі ўпершыню патрапіў на Захад, доўга ня мог растлумачыць маім гаспадарам, адкуль прыехаў. Я лічыў сябе ўкраінцам, нават меў адпаведны запіс у пашпарце. Фармальна існавала УССР з уласным урадам, парлямэнтам і нават месцам у ААН. Таму ўпэўнена сказаў: "I'm from Ukraine".

Суразмоўцам гэта нічога не казала:

"Sorry?" — пыталіся самыя выхаваныя.

"What? Bahrain?" — перапытвалі іншыя.

"Не, Ukraine", — адказваў ім цярпліва.

"What's that?"

"Гэта адна з рэспублік Савецкай фэдэрацыі".

"Oh, Russia!" — радасна ўскрыквалі амэрыканцы.

"Не, — я спрабаваў цярпліва тлумачыць, — Расея таксама частка Савецкага Саюзу".

Амэрыканцы слупянелі, дый годзе: як Расея можа быць часткай Расеі? Урэшце спаткаў кагосьці, каго не дзівіла маё тлумачэньне. Наадварот, ён адрэагаваў вельмі дасьведчана.

"Which Ukraine? Russian one or Polish one?"

"Soviet one, на разе", — адказаў я.



## ЗАХАД І ЎСХОД

Кожны, хто быў у Заходняй і Ўсходняй Украінах — скажам, у Львове і ў Данецку — пацьвердзіць, што гэта сапраўды два розныя сусьветы, цывілізацыі: ад архітэктуры да насельнікаў. "Усходнікі" й "заходнікі" гавораць на розных мовах (расейскай і ўкраінскай), галасуюць за розныя партыі, ходзяць у розныя цэрквы (ці, хутчэй, на ўсходзе ня ходзяць увогуле), бяруць прыклад з розных культураў, па-рознаму глядзяць на мінуўшчыну й будучыню краіны.

Канфрантацыя між дзьвюма Ўкраінамі гвалтоўная: цяжка паяднаць савецкую й антысавецкую канцэпцыі нацыянальнага мінулага ці ідэю эўрапейскай інтэграцыі з інтэграцыяй паводле расейска-беларускага ўзору. Цяжка адначасова спрыяць адраджэньню ўкраінскае мовы й культуры й заплюшчваць вочы на ўціск іх з боку расейскае мовы й культуры. Гэта, аднак, канфрантацыя ідэалягічная: "дзьве Ўкраіны" зьяўляюцца хутчэй абстрактнымі ідэямі, чым супярэчнымі між сабой геапалітычнымі рэальнасьцямі. Можна сказаць, што ў Львове адна Ўкраіна, а ў Данецку іншая. Цалкам немагчыма, аднак, вызначыць, дзе "адна" Ўкраіна сканчаецца, а "другая" пачынаецца.

Украіна "расейская" дамінуе на ўсходзе ў сваіх найбольш пачварных, саветызаваных формах. Менавіта ў Данбасе найбольшы ўзровень злачыннасьці (асабліва забойстваў і рабункаў), гэта там найвышэйшы ўзровень наркаманіі, алькагалізму, самагубстваў, абортаў, вэнэрычных хваробаў. Чым далей на захад, тым саветызацыя менш відавочная. Штораз меней брыдкіх сталінскіх гмахаў, помнікаў Леніну і вуліцаў, названых ягоным імем, атрутных прамысловых прадпрыемстваў і, *last but not least*, расейскай мовы.

Але нават у Львове Ўкраіна "расейская" не зьнікае зусім: расейская прэса й кніжкі прадаюцца і тут па дэмпінгавых коштах, звычайная расейская "папса" верашчыць з кожнай другой кавярні, бізнэс-эліта, як і спакрэўнены зь ёю крымінальны сьвет, гаворыць выключна па-расейску, то бок на мове савецкай партыйнай, камсамольскай і кадэбісцкай намэнклятуры, зь якой большасьць т.зв. "новых украінцаў" паходзіць.

Знайсьці ў Данецку сьляды "ўкраінскай" Украіны нашмат цяжэй: яе прадстаўнікі жывуць у правінцыі, а ў гарадах не займаюць высокіх пасадаў, бо ўмовай кар'еры раней была русіфікаванасьць. Украінцы пазаставаліся ў калгасных "гетах", пастаўляючы ў вялікія гарады гастарбайтараў. "Але ж многае зьмянілася на лепшае, — цьвердзіць Уладзімер Бандарэнка, адзін з актывістаў украінскага руху ў Данецку. — Мы здолелі адчыніць колькі ўкраінскіх школаў (дзесяць год таму ў паўтарамільённым Данецку не было аніводнай), бацькі ахвотна аддаюць туды дзяцей, клясы перапоўненыя. Дамагаемся мы й сваёй газэты, кнігарні."

Улада не дапамагае? "Не, але, прынамсі, і не перашкаджае."

Для ўкраінцаў гэта адно з найбольшых дасягненьняў апошняга дзесяцігодзьдзя: упершыню яны маюць дзяржаву, якая не перашкаджае аддаваць дзяцей ва ўкраінскія школы, не перасьледуе за ўкраінскую мову.

Мэтафара "дзьвюх Украінаў" сьведчыць пра два ідэалягічныя й геаграфічныя вэктары, сымбалямі якіх могуць быць Львоў і Данецк. Адзін вэктар — гэта Ўкраіна ўкраінская й эўрапейская, што імкнецца ў NATO і ЭЗ; другі — гэта Ўкраіна савецкая й эўраазіяцкая, што імкнецца да ўсходнеславянскага саюзу, сьледам за бацькам-Лукашэнкам. Мэтафара добра тлумачыць сутнасьць выбару, які дзесяць год робіць — і ня можа зрабіць — Украіна, што дагэтуль таўчэцца на цывілізацыйным, культурным, геапалітычным раздарожжы.



**МІКОЛА РАБЧУК, інтэлектуальны лідэр кіеўскага кола інтэлігенцыі. Нарадзіўся ў 1953 г. у Луцку. Скончыў Львоўскую палітэхніку і Маскоўскі літінстытут. За сваё жыцьцё працаваў на розных працах: ад пагонщыка сланоў у цырку ў савецкі час да рэдактара часопісу "Крытыка" ў апошнія гады. Летась выйшлі кнігі ягонае эсэістыкі "Ад Маларосіі да Ўкраіны" і "Дылемы ўкраінскага Фаўста".**

## ПРАПРЭЗЫДЭНЦКІ ГІПНОЗ

Дзякуючы перабудове, уладу ва Ўкраіне атрымала прагматычная частка намэнклятуры, якая, каб перакanaць сваіх кансэрватыўных праціўнікаў з партыі ды ўзаконіць сваё вызваленьне з-пад кантролю Масквы, утварыла тактычны саюз з нацыянальна-дэмакратычнай апазыцыяй. Дэмакратам аддалі на водкуп гімн, сьцяг і ідэалёгію маладой дзяржавы, а таксама культуру й адукацыю. Намэнклятура ж занялася прыватызацыяй, транзытам нафты й газу з Расеі, банкаўскімі спэкуляцыямі ды інш. Дзякуючы гэтаму, яна перарадзілася з клясы палітычнай у палітычна-бізнэсовую, ажно яе дэнідзе пачалі называць не "намэнклятурай", а "алігархіяй".

Спрэчкі, ці магла дэмакратычная апазыцыя гэтаму перашкодзіць, не сьціхаюць і сёньня. З аднаго боку, Рух ня меў дастатковай грамадзкай падтрымкі, каб сваімі сіламі праводзіць радыкальныя палітычныя і гаспадарчыя рэформы. Рух мог разьлічваць на падтрымку 30% жыхароў, якія ў сьнежні 1991 г. галасавалі за некамуністычных і ненамэнклятурных кандыдатаў у прэзыдэнты. Больш за 60% падтрымала, аднак, Краўчука. Гэта пазначала, што для ўкраінцаў "расейскамоўных" і "дзьвюхмоўных" Вячаслаў Чарнавіл і Рух здаваліся апазыцыяй ня столькі "дэмакратычнай", колькі "нацыяналістычнай".

Тактычны саюз намэнклятуры й нацыянальна-дэмакратычнай апазыцыі быў немагчымы. Не паўстала ані клясычная кааліцыя, ані тыповая шматпартыйная сыстэма. 10 год намэнклятурныя кланы кіравалі краінай з-за плячэй былых апазыцыянэраў і нібыта ад іх імя — ад імя незалежнасьці, дэмакратыі й капіталізму, — гэтыя ідэі кампрамэтуючы. Мой малодшы брат, прыхільнік крайняй правіцы, любіць паўтараць: "Праблема дэмакратаў ня ў тым, што прадаліся, а ў тым, што прадаліся гэтак танна".

"Партыя ўлады" хутка знайшла "слабое месца" хаўрусьнікаў: панічны страх перад Расеяй. "Масква" — гэта магічны лёзунг, які дзейнічаў на ўкраінскіх дэмакратаў, як паралізуючы газ. "Не перакулім нашага супольнага чаўна!" — казалі прапрэзыдэнцкія гіпнатызэры на ўсіх тэлеканалах. І дэмакраты падтаквалі: "Лепей ужо такая ўлада, чым ніякай. Лепей ужо гэткі прэзыдэнт, чым маскоўскі". Зрэшты, невядома да канца, колькі ў той пазыцыі страху, а колькі самаапраўданьня за калябарацыю з рэжымам.

## КАНСАЛІДАЦЫЯ АЎТАРЫТАРЫЗМУ

Аўтарытарная сыстэма, якая развалілася разам з СССР, у другой палове 90-х адрадзілася на ўсёй постсавецкай прасторы. Мясцовыя саветы, як і саветы вышэйшага ўзроўню, былі толькі шырмаю. Рэальную ўладу, як колішнія партыйныя камітэты, маюць прэзыдэнцкія адміністрацыі разам з падпарадкаванымі ім дзяржаўнымі адміністрацыямі. Ані Ўкраіна, ані Расея, ня кажучы ўжо пра сярэднеазіяцкія дзяржавы, не зьяўляюцца прававымі дзяржавамі. Тэлефанаваньне з прэзыдэнцкай адміністрацыі, як калісьці з ЦК, важыць больш, чым рашэньне суду. У гэтым корань усіх гаспадарчых і палітычных праблемаў дзяржаваў СНД.

Робэрт Дэ Лоса, амэрыканскі паліталяг з Украінскага інстытуту ў Гарвардзе, трапна акрэсьліў гэтую сыстэму, як "дзяржаву, пабудаваную на шантажы". Абываталь, каб выжыць, мусіць парушаць закон. *Blackmail State* не зьвяртае ўвагі на дробныя (а часам і цяжэйшыя) парушэньні так доўга, колькі абываталь застаецца ляяльным да рэжыму. Затое бунт караецца — згодна з законам і ўсімі фармальнасьцямі.

Прыкладам можа быць лёс былога прэм'ера Ўкраіны Паўла Лазарэнкі. Ён нажыў мільённае багацьце і заслужыў прызнаньне прэзыдэнта, хоць парлямэнцкая камісія па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю папярэджвала Кучму аб падазроных кантактах Лазарэнкі. Але варта было ў 1997 г. прэм'еру-бізнэсмэну неасьцярожна расказаць пра сваё жаданьне за два гады вылучыць сваю кандыдатуру на прэзыдэнта, як ён момантам страціў пасаду і ўжо тры гады чакае суду ў амэрыканскай вязьніцы, па абвінавачаньні, між іншым, у адмываньні брудных грошай.

Гісторыя Лазарэнкі, а таксама бязьлітаснае зьнішчэньне ягонай газэтна-тэлевізійнай імпэрыі, сталася пралогам да аднагачасова жорсткай і цынічнай прэзыдэнцкай кампаніі 1999 г. Аднак міжнародныя арганізацыі маўчалі. Гэта заахвоціла ўлады да арганізацыі карыкатурнага рэфэрэндуму, датычнага зьменаў у Канстытуцыі, якія ўзмацнілі прэзыдэнцкі аўтарытарызм. Гэты фарс спыніла, аднак, Рада Эўропы, а ўкраінскі парлямэнт не замацаваў прапанаваных прэзыдэнтам зьменаў.

Татальнай кампрамэтацыяй было апублікаваньне запісу размоваў прэзыдэнта зь ягоным найбліжэйшым атачэньнем. Нягледзячы на тое, што зьмест тых запісаў шакаваў большасьць спэцыялістаў, а таксама сапраўдных грамадзянаў, ані камуністычная лявіца, ані нацыянальна-дэмакратычная правіца не дамагаліся адстаўкі Кучмы. Непапулярная ўлада перажыла той скандал безь вялікіх стратаў, як і два гады таму непапулярны прэзыдэнт здолеў выйграць (выйграў) выбары, умела топячы апанэнтаў. "Партыя ўлады" ўвесь час выкарыстоўвае спэцыфіку "дзьвюх Украінаў", прапагандуючы сябе ў кожнай зь іх як "меншае зло" і пераконваючы, што дрэнны спакой лепшы за добрую бойку. І прасавецкая лявіца, і празаходняя правіца ня любяць Кучмы і ягонай алігархіі, але яшчэ болей яны ня любяць адно аднаго, баючыся, што іншы бок можа скарыстацца з падзеньня Кучмы.

## ХАЛОДНАЯ ГРАМАДЗЯНСКАЯ ВАЙНА

Дасьледаваньні грамадзкай думкі сьведчаць, што за Ўкраіну "ўкраінскую" і "эўрапейскую" выступае чвэрць грамадзянаў. За Ўкраіну "савецкую", "эўразійскую" галасуе трэцяя частка. Рэшта, дакладней, палова адказвае звычайна: "ня ведаю", "не разумею", "мне гэта нецікава", "яшчэ ня вызначыўся". А калі ўжо вызначаюцца, дык выступаюць за саюз з Эўропай, але разам з Расеяй, за вольны рынак, але з усімі сацыяльнымі гарантыямі, за адраджэньне ўкраінскай мовы й культуры, але пры далейшым панаваньні расейскай мовы й культуры.

Будучыня Ўкраіны ў вялікай ступені залежыць ад гэнай трэцяй, "нявызначанай" часткі, якой маніпулюе "партыя ўлады". І уласна, тая маўклівая, палітычна нябачная й неакрэсьленая частка Ўкраіны зьяўляецца галоўнай грамадзкай падтрымкай маладой алігархіі, гэта, уласна, з-за яе ідзе ў краіне "халодная грамадзянская вайна".

"Партыя ўлады" задаволеная наяўным станам рэчаў. Яна патрабуе "дзьвюх Украінаў", каб у вачах народу й сьвету адыгрываць ролю фальшывага пасярэдніка. Але яшчэ больш ёй трэба гэная трэцяя "нявызначаная" Ўкраіна — бо гэта ейны электарат, квазі-дэмакратычная легітымацыя. Таму "партыя ўлады" намагаецца захоўваць тых людзей у стане апатыі, няведаньня й страху перад нейкім грамадзкім канфліктам. Таму кантраляваныя рэжымам

мэдыі прышчапляюць людзям канфармізм і цынічны рэлятывізм.

"Я не анёл", — гэтак прэзыдэнт тлумачыў сваю схільнасьць да мату, зафіксаванага на вядомых стужках. "А хто анёл?! — падхопліваюць вернападданыя мэдыі. — А хто яго заменіць? Во той камуняка? А мо во гэты нацыяналюга? Хочаце анархіі, вайны?" Вайны ніхто ня хоча: лепей не рызыкаваць тым хісткім чаўном, у якім мы ўсе плывем. А раптам новы прэзыдэнт будзе яшчэ горшы? З гэтым можна яшчэ неяк жыць.

### НАДЗЕЯ І ЧАКАНЬНЕ

Ва Ўкраіне ёсьць, прынамсі, тры чыньнікі, якія не дазваляюць краіне дарэшты патануць у застоі пад кіраўніцтвам аўтарытарнай улады.

Гаспадарчыя рэформы, хоць і бязладныя, стварылі ўмовы для разьвіцьця прадпрымальніцтва й эканамічнай незалежнасьці гаспадарчае адзінкі. Зьмянілася сыстэма адукацыі і лад жыцьця многіх людзей. Грамадзтва стала больш адкрытым, мае лепшы доступ да інфармацыі і ўсё выразьней арыентуецца на заходнія вартасьці. Праўда, інстытуты грамадзянскае супольнасьці, напрыклад, незалежныя СМІ, маюць уплыў толькі ў найбольшых гарадах, але ўсё ж яны разьвіваюцца насуперак волі ўладаў, якія намагаюцца іх падкупіць, пазбавіць уплыву альбо зьнішчыць.

Алігархічная "партыя ўлады" не такая маналітная, якой была Камуністычная партыя Яна складаецца з вострa канкуруючых між сабой кланаў. Поруч са "старымі", "транзытнымі" групамі, што зарабляюць на рээкспарце расейскай нафты й газу й на фінансавых афэрах, растуць новыя, што зарабляюць на выпуску прамысловае прадукцыі або спажывецкіх тавараў. Зьменшыўся адток капіталаў з Украіны ў банкі на экзатычных астравах, чаму спрыяла ня толькі палітыка былога прэм'ера Віктара Юшчанкі, але й пазыцыя заходніх урадаў, што супрацьдзеялі адмываньню брудных грошай у іхных краінах праз постсавецкіх "бізнэсмэнаў". Гэта заахвоціла кіруючую клясу да інвэставаньня ва ўкраінскую эканоміку.

І ўрэшце. Украіна знаходзіцца, хочаш ня хочаш, у Эўропе, надзвычай блізка ад мяжы краінаў Першага Сьвету. Эўрапейцы ня могуць яе ігнараваць, як амэрыканцы ня могуць ігнараваць Мэксыку. Захад, увогуле, пераацэньвае гатоўнасьць украінскіх элітаў перайсьці пад апеку Масквы, пераацэньвае і здольнасьць Расеі апанаваць вялікую й разнастайную Ўкраіну. Зь іншага боку, Захад не заўважае, наколькі важныя для ўкраінцаў кантакты з заходнімі краінамі. Не для таго яны скінулі камунізм, каб далей сядзець у пазалочанай намэнклятурнай клетцы.

Захад не павінен паддавацца прымітыўнаму шантажу Кіева, які пагражае "збліжэньнем" з Масквой, як толькі Захад загаворвае аб правах чалавека ці вольных выбарах. Але Захад можа і мусіць эфэктыўней кантраляваць абарачэньне капіталаў, а таксама праводзіць больш актыўную візавую палітыку, адмаўляючы ў праве на ўезд палітыкам і бізнэсоўцам, якіх падазраюць у карупцыі. Калі віза ў эўрапейскую краіну зьяўляецца праблемай для журналіста ці навукоўца, а не для постсавецкіх гангстэраў, дык размовы пра заходнюю дапамогу выглядаюць, мякка кажучы, няшчырымі.

Украіне несумненна трэба дапамагаць, але спачатку трэба зразумець, якой зь "дзьвюх Украінаў" тая дапамога мусіць ісьці. Грамадзянскай супольнасьці, аслабленай гаспадарчым хаосам і палітычным ціскам, ці аўтарытарнай дзяржаве, што хавае старую сыстэму пад маскай дэмакратыі й рынкавай эканомікі?

**Польшча**

# Пагроза фінансавага крызысу

**На пазамінулым тыдні польскі міністар фінансаў Яраслаў Баўц перапалохаў калегаў-міністраў і грамадзкую думку тым, што дэфіцыт бюджэту краіны ў 2002 г. можа скласьці 88 млрд. злотых (каля 22 млрд. даляраў). Польшчы пагражае фінансавы крызыс, катастрофа бюджэту, зьніжэньне ўзроўню жыцьця, скачок інфляцыі. Незалежныя экспэрты пацьвердзілі словы Баўца. Калі ўрад проста зараз ня прыме мераў, недабор у будучым бюджэце дасягне ад 85 да 93 млрд. злотых. На наступны ж дзень Баўца выправілі ў адстаўку — за тое, што "давёў да такога стану" і "запозна пэрасьцярог".**

Гэтыя праблемы ў польскім скарбе ствараліся паступова — дэфіцыт бюджэту прыхоўвалі, нястачы "перасоўвалі" на наступныя гады. Крызыс быў выкліканы неэфэктыўнасьцю падатковай сыстэмы, мноствам неапраўданых ільготаў і — самае асноўнае — наяўнасьцю безьлічы ўсемагчымых агенцыяў і фондаў, што атрымліваюць бюджэтныя датацыі. Апроч 14 дзяржаўных мэтавых фундацыяў, што фігуруюць у сёлетнім польскім бюджэце, ёсьць тысячы драбнейшых інстытуцыяў такога кшталту. Гэтыя арганізацыі вельмі часта дублююць адну і іх дзейнасьць не абгрунтаваная лёгікай. Скажам, навошта існуе Фундацыя рэабілітацыі непаўнавартасных асобаў, калі дзяржава праз свае цэнтральныя ўстановы і самакіраваньне магла б выконваць ейныя функцыі? А скасаваньне Фундацыі заашчадзіла б 1,1 млрд. злотых. Функцыі Агенцыі прамысловага разьвіцьця таксама маглі б з посьпехам выконваць дзяржаўныя міністэрствы. Стварэньне такіх фундацыяў зьяўляецца добрым спосабам не плаціць падаткаў. Штогод на іхныя рахункі цякуць датацыі альбо некантраляваныя дзяржавай прыбыткі. Вось і апынулася на мяжы крызысу самая дынамічная эканоміка Ўсходняй Эўропы.

Баўц прапанаваў за 2002 г. давесьці да ладу фінансавую сыстэму краю, павялічыўшы падаткі ці перапыніўшы на два гады выплаты ў пэнсійныя фонды. Але незалежныя экспэрты кажуць, што падвышэньне падаткаў пагоршыць пэрспэктывы росту й сытуацыю на рынку працы — беспрацоўе перавысіць 20%, людзі, чый заробак паменшыцца, будуць менш працаваць, а таму лепш скараціць выдаткі і ня рушыць падаткаў.

Новая міністарка фінансаў Галіна Васілеўская-Трэнкнэр і ўрад пастанавілі, што дэфіцыт ня можа перавысіць 40 млрд. злотых (10 млрд. даляраў). Падвышэньня падаткаў ня будзе, але кожны, хто адмовіцца скарачаць свае выдаткі, будзе павінен запрапанаваць іншую крыніцу ашчаджэньняў. Урад таксама не зьбіраецца выпускаць новыя эўрааблігацыі.

Палякі заўважылі крызыс на этапе, калі зь ім яшчэ можна змагацца. Гэта найлепшы доказ жыцьцёвасьці польскіх пераўтварэньняў.

**Сяргей Рак**



## Падтрымка Тыбэту

**Польскі Сойм прыняў дэкларацыю салідарнасьці з тыбэцкім народам.** Такім чынам Польшча падтрымала права тыбэцкага народу на самавызначэньне.

## Беларускае пытаньне ў Кіеве

**На сьвяткаваньні 10-й гадавіны ўкраінскае незалежнасьці ў Кіеве на сустрэчы Квасьнеўскага й Пуціна паміж іншых пытаньняў абмяркоўвалася й праблема Беларусі.** "Нас засмучае ўтварэньне своеасаблівага востраву пад назвай Беларусь, які пачынае не пасаваць да свайго атачэньня. Ня толькі да заходняга, але і да ўсходняга", — сказаў дарадца прэзыдэнта Польшчы па замежнапалітычных пытаньнях Станіслаў Цёсак. Лукашэнку ў Кіеў не запрасілі.

# Віленскія шыльды

**У Вільні зьбіраюцца ўшанаваць памяць друкара Пятра Мсьціслаўца. Між тым за лета зьніклі некалькі беларускіх памятных шыльдаў**

Віленская мэрыя паведаміла, што неўзабаве на доме 19 па вуліцы Вялікай (былы палац бурмістра Якуба Бабіча) зьявіцца шыльда ў гонар Мсьціслаўца. З просьбай усталяваць гэткую дошку зьвярнуліся да Міністэрства культуры Літвы прадстаўнікі... Калінінградзкай вобласьці. Калінінградцы паабяцалі прывезьці шыльду і аплаціць яе выраб. Таму надпіс будзе зроблены толькі па-расейску і па-літоўску.

Дом на Вялікай абраны таму, што, як мяркуецца, менавіта там у канцы XVI ст. працавала друкарня Мсьціслаўца. Мсьціславец пражыў тутака гадоў дзесяць.

На сьцяне гэтага дому ўжо вісіць дошка ў гонар Скарыны. Два беларускія друкары будуць суседзіць на адной сьцяне... Калі, праўда, мэмарыяльная табліца Скарыну не прападзе. Бо, напрыклад, бронзавы барэльеф Рыгора Шырмы, што вісеў на ягоным доме каля Прачысьценскага сабору, скралі яшчэ ўвесну. Гранітныя табліцы па-літоўску й па-беларуску пакінулі, а барэльеф з бронзы, бадай, ужо й пераплавілі. Хоць Шырма на рэльефе быў болей падобны да якога казахскага акына, чым да беларускага кампазытара, усё адно шкада.

А вось зьнятае мармуровае шыльды памяці Кастуся Каліноўскага, што была на вуліцы ягонага імя, колішняй Малой Пагулянцы, не шкада... Яе ўсталявалі яшчэ за савецкім часам і расейскі надпіс на ёй сьведчыў, што "Костас Калинаускас — руководитель освободительного восстания в Литве". За рогам таго ж дому, дзе вісела згаданая шыльда Каліноўскага, была мэмарыяльная табліца Вацлаву Ластоўскаму. На жаль, не прабыла яна тут і году. Гэтым летам прапала. Хоць была са звычайнага чыгуну й наўрад ці каму спатрэбілася на мэтал. Разважалі з калегам, хто б такое мог учыніць. Прыйшлі да думкі, што зусім не абавязкова літоўцы. Мог і які беларус — вэтэран партыі. Бо ж і ў Менску ніхто цяпер не дазволіць шанаваць Ластоўскага. Дык на што наракаць? Хіба на тое, што літоўская паліцыя ня сочыць за зьберажэньнем у Вільні памяці пра беларускага акадэміка.



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Зрэшты, у Менску не ўшанаваны ня толькі Ластоўскі. Гарвыканкам ня даў дазволу на ўсталяваньне шыльды ў памяць Фэрдынанда Рушчыца да ягонага леташняга юбілею на будынку былое гімназіі, дзе будучы мастак, прафэсар Варшавы, Кракава й Вільні, правёў свае школьныя гады й дзе пачынаў маляваць. А вось у Вільні яму мэмарыяльную табліцу з барэльефам усталявалі-такі ўвесну. Натуральна, надпісы па-польску й па-літоўску. Беларусы ж не азываюцца...

Гэтым летам віленскі дом Рушчыца ў двары на Замкавай быў адрэстаўраваны і ўпрыгожаны кветнікам. Гэтым самым летам быў (каторы раз!) адрамантаваны й перафарбаваны дом з майстэрняю іншага беларускага мастака, Пётры Сергіевіча. Ягоная мэмарыяльная табліца — таксама каторы ўжо раз — прапала, цяпер ужо незваротна, недзе ў чэрвені. Упоперак усяго колішняга дому Сергіевіча транспарант — "Прадаецца"...

**Сяргей Харэўскі**

**Расея**

## Няма каму рабіць

**З-за сёньняшняй дэмаграфічнай сытуацыі Расея мае патрэбу ў мільёне работнікаў-мігрантаў зь ліку расейскамоўнага насельніцтва СНД.** Штогод насельніцтва Расеі зьмяншаецца на 700 тысячаў чалавек і на сёньня складае прыблізна 140 млн.

**Ізраіль**

## Ня зьнішчыш!

**Міністэрства абароны Ізраілю зьбіраецца стварыць банк спэрмы ўсіх вайскоўцаў.** Гэта робіцца для таго, каб нават у выпадку гібелі салдата можна было працягнуць ягоны род. Нявыкарыстанае ж семя будуць перадаваць у распараджэньне дактароў. Паколькі ў Ізраілі ў войску служаць і дзяўчаты, дык яны патрабуюць, каб стварылі таксама банк яйцаклетак.

**Сэрбія**

## Дэмакратычная канстытуцыя

**У Сэрбіі рыхтуецца новая канстытуцыя.** Яна адновіць аўтаномію Ваяводзіны, 10 гадоў таму скасаваную Мілошавічам. Напалову каталіцкая Ваяводзіна — самы заможны рэгіён Сэрбіі.

**Расея—Літва**

## Ачомаліся

**Расейская вайсковая пракуратура патрабуе ад літоўскіх уладаў выдаць дэзэрціраў, што паўцякалі з савецкага войска ў 1990—91 гадох.** У той час літоўская моладзь ухілялася ад прызыву, а літоўскі парлямэнт заклікаў байкатаваць армію СССР, як войска чужой дзяржавы. Літоўскія ўлады запэўніваюць сваіх грамадзянаў, што нікога ня выдадуць Расеі.

**Румынія**

## Палітыкі на абразах

**Партрэты Міхала Гарбачова, Джорджа Буша-старэйшага і Яна Паўла II зьмешчаныя на абразе ў праваслаўнай царкве Сэрэс.** Каля выяваў надпіс: "Гэтыя тры мужы зьмянілі бег гісторыі". У іншай частцы сьвятыні намаляваная фрэска з выявамі ўніяцкага, пратэстанцкага й праваслаўнага біскупаў. Каля іх выбітыя словы: "Ойча, маліся, каб усе былі адно".

**Літва**

## Жыды дапамогуць

**У Вільні прайшоў кангрэс жыдоў-літвакоў.** У ім бярэ ўдзел больш за 300 чалавек з 12 краінаў. Будуць думаць, як дапамагчы Літве эканамічна, паскорыць ейную інтэграцыю з Эўразьвязам і NATO. Закрануць таксама праблему вяртаньня колішняй габрэйскай маёмасьці.

**Узбэкістан**

## Няма вяртаньня

**Узбэкістан ня вернецца ў Дамову аб калектыўнай бясьпецы, — заявіў прэзыдэнт Карымаў.** Згаданую дамову падпісвалі Расея і ейныя сатэліты: Беларусь, Таджыкістан, Кыргыстан, Казахстан і Армэнія.

**Аўганістан**

## Забарона Інтэрнэту

**Талібы забаранілі грамадзянам карыстацца Інтэрнэтам.** Рэлігійная паліцыя будзе караць непаслухмяных.

**Сяргей Рак**

# Асаблівасьці цэнтральнаэўрапейскага

**Ці стаў бы Сыльвіё Бэрлюсконі прэм'ер-міністрам Італіі, каб не ягонае прэзыдэнцтва ў футбольным клюбе *Milan*?**

Палітыкі любяць наведваць стадыёны. Чэмпіянаты сьвету і Эўропы па футболе, хакейныя мерапрыемствы, тэніс... Францускі прэзыдэнт Жак Шырак аж заплакаў ад шчасьця, калі ў 98-м, у фінале футбольнага Кубку сьвету, француская зборная перамагла бразыльскую. Футбалісты ўсьцягнулі прэзыдэнта на імправізаваны подыюм і танчылі разам зь ім у гонар перамогі. Наўрад ці ў тыя хвіліны Шырак думаў пра свой рэйтынг, які пасьля таго фіналу значна вырас, у адрозьненьне ад рэйтынгу ягонага суперніка, абыякавага да футболу інтэлігента-сацыяліста Ліянэля Жаспэна.

У тым самым 98-м, у чвэрцьфінале Кубку сьвету, харвацкія футбалісты перамаглі Нямеччыну — 3:0. Уся Харватыя выйшла на вуліцы. Такога не было з часоў абвяшчэньня незалежнасьці. А прэзыдэнт Харватыі Франё Туджман, што прысутнічаў на гістарычным матчы ў Ліёне, ноччу па тэлебачаньні павіншаваў грамадзянаў маладое дзяржавы з выхадам у паўфінал. Віншаваў суайчыньнікаў ён і праз тыдзень, калі Харватыя ў матчы за трэцяе месца адолела галяндцаў.

Брытанская каралеўская сям'я заўсёды прысутнічае на Ўімблдонскім турніры, а Біл Клінтан увесь час наведваў матчы НХЛ і НБА ў Вашынгтоне. Вэнэсуэльскі дыктатар-папуліст Уга Чавэс — фанат бэйсболу.

Спартовыя спаборніцтвы — гэта двубой ня толькі паміж спартовымі камандамі, але й паміж краінамі, гэта шанец даказаць сваю перавагу або ўзяць рэванш за ранейшыя палітычныя крыўды. Лішне згадваць пра тую "футбольную вайну" паміж суседнімі Сальвадорам і Гандурасам, што ў свой час перарасла ў сапраўдную, забраўшы 3000 жыцьцяў.

Пасьля распаду югаслаўскай фэдэрацыі футбольныя, баскетбольныя ці гандбольныя матчы Славеніі ці Харватыі зь Югаславіяй ператвараліся ў супрацьстаяньне двух сьветаў. Славенцы помсьцілі за сапсаваны ў 1991 г. Дзень Незалежнасьці, а харваты — за зьнішчаны Вукавар. Заўзятары абодвух бакоў высьвятлялі адносіны паміж сабой на трыбунах ці па-за імі.



IREX-PROMEDIA

**Ва ўрадавай ложы падчас матчу Беларусь—Украіна побач з Лукашэнкам зьлева: прэм'ер У.Ярмошын, за ім шэф Адміністрацыі прэзыдэнта М.Мясьніковіч. У верхнім шэрагу 2-гі зьлева — віцэ-сьпікер "палаты" Ў.Канаплёў, 3-ці зьлева — сакратар Рады бясьпекі Ў.Латыпаў. У 2-м зьнізу шэрагу крайні зьлева — рэктар БДУ і меркаваны "прастоланасьледнік Лукашэнкі" Ў.Казулін, 3-ці зьлева — Р.Васілевіч, старшыня Канстытуцыйнага суду. Іншыя — міністры, дэпутаты, чыноўнікі, ахоўнікі.**

Пасьля крывавай праскай вясны 1968-га чэская хакейная зборная выходзіла на матч з савецкай лядовай дружынай максымальна змабілізаванай і літаральна клалася касьцьмі на пляцоўцы, абы не прайграць саветам. А перамогі над "рускімі" ўспрымаліся як нацыянальнае сьвята. Калі ў футбольных чэмпіянатах СССР 70—80-х віленскі "Жальгірыс" (што ў перакладзе пазначае, дарэчы, Грунвальд — Дуброўна, Зялёны Лес) перамагаў расейскія каманды, літоўцы выходзілі на вуліцы Вільні з нацыянальнымі сьцягамі й воклічамі "Жыве незалежная Літва". Дый талерантныя беларусы скакалі пасьля леташняй перамогі над расейскай зборнай на хакейным першынстве сьвету ў Санкт-Пецярбургу.

Спалучэньне спорту з палітыкай характэрнае ня толькі для краінаў з камуністычнай спадчынай. Футбольныя матчы Рэал (Мадрыд)—Барсэлёна ці матчы мадрыдзкіх клюбаў з баскамі зь Більбао альбо Сан-Сэбаст'яну нясуць адбітак даўніх палітычных рахункаў, гэтаксама як і матчы Англія—Шатляндыя, Англія—Валія, альбо Ірляндыя—Англія. Бо жыве гістарычная памяць, і лепей высьвятляць адносіны на футбольным полі, чым узброеным шляхам.

У краінах Цэнтральнай Эўропы дзяржава часта засяроджвае ўвагу на нейкім пэўным відзе спорту, укладае ў яго грошы, з разьлікам на палітычныя дывідэнды.

Харватыя на пачатку 90-х мела тры моцныя віды спорту: футбол, баскетбол, гандбол. Узровень харвацкіх футбалістаў традыцыйна высокі. Большасьць, яшчэ зь цітаўскага часу, грала за межамі краіны. Так і цяперашнія: Давар Шукер, Горан Влавовіч, Мар'ё Станіч, Робэрт Ярні, Алёша Асанавіч, Ален Бокшыч, Званімір Бобан, Робэрт Прасінэчкі.

Харвацкая фэдэрацыя футболу і прэзыдэнт Туджман вырашылі зламаць гэтую традыцыю, стварыўшы мясцовы супэрклюб на базе загрэбскай "Краацыі". Вялікія субсыдыі, пошук новых "зорак", захаваньне старых кадраў. Прыкладам, брамнік клюбу і зборнай Харватыі Драган Ладзіч меў гадавы кантракт у 1,5 мільёна нямецкіх марак. Ладзіч каштаваў тых грошай. Але "Краацыя", якая ўвесь час была чэмпіёнам краіны, у Лізе Чэмпіёнаў выглядала ніякавата, часьцей спыняючыся на групавым турніры. Потым Франё Туджман памёр, цікавасьць да "Краацыі" зьменшылася, пачаліся фінансавыя праблемы. Цяпер у Харватыі спрабуюць вярнуць былы бляск спліцкаму "Гайдуку" — укладаюць грошы, запрашаюць харвацкіх гульцоў з Эўропы. Так, Ігар Шцімац з "Уэст-Гему" і Алёша Асанавіч з "Аўстрыі" ўжо падпісалі кантракты. Час пакажа, што будзе з харвацкім футболам далей, але ў гэтай маленькай краіне лічаць, што ім не абысьціся без сваіх спартовых герояў. Прычым у сваёй айчыне.

У Баўгарыі і Румыніі футбол квітнеў пры Жыўкаву ды Чаўшэску. І нават посьпех баўгараў на чэмпіянаце сьвету 1994 г. быў адгалоскам той камуністычнай эпохі. Гульцы былі старой загартоўкі, з жыўкаўскага ЦСКА. Дзеля задавальненьня амбітнасьці кіраўнікоў балканскіх дзяржаваў рабілася ўсё магчымае і немагчымае. У 1987 г. нападніку бухарэсцкага "Дынама" Кэмэтару не ставала 7 мячоў, каб стаць лепшым бамбардырам у Эўропе. Была дадзеная адпаведная каманда, і ў апошнім матчы чэмпіянату Румыніі той праявіў цуды футбольнага майстэрства і "дабіў" неабходную колькасьць мячоў.

У суседняй Славеніі, узоры дэмакратыі для Ўсходняй Эўропы, палітыкі не дэкляравалі сваіх прыхільнасьцяў да нейкага пэўнага віду, а паціху разьвівалі ўвесь спорт. Грошы ўкладаліся і ў хакей, і ў гандбол, і традыцыйныя для гэтай горнай краіны лыжныя віды спорту. Краіна багацела, зьяўляліся ўкладаньні ў футбол. І чэмпіянат Эўропы 2000 г. паказальны. Славенія, памерам з нашую Гарадзеншчыну, хоць і не пайшла далей групавога турніру, але паказала прыстойны футбол. А ў мінулую суботу яшчэ і перамагла расейцаў зь лікам 2:1.

Астатнія краіны робяць стаўку на пэўны від спорту і пасьпяхова з гэтага карыстаюцца. Чэхія ўкладае ў хакей такія сродкі, што беларусам і ня сьніліся. Адсюль і масавае прадукаваньне гульцоў экстракліясы, і магчымасьць стварыць хакейную зборную, маючы ў рэзэрве колькі дзясяткаў добрых хакеістаў хоць з НХЛ, хоць з Эўропы, хоць зь мясцовых.

Літва разьвівае моцны з савецкіх часоў баскетбол. Прычым грошы ў яго ўкладаюць ня толькі бізнэсоўцы, але й легендарныя баскетбалісты (Сабоніс, Марчулёніс, Хомічус ды Курцінайціс, які нядаўна яшчэ быў міністрам спорту). Як вынік — перамога ковенскага "Жальгірысу" на Кубку Эўрапейскіх Чэмпіёнаў два гады таму. Нейкі час жаночую фэдэрацыю баскетболу краіны ўзначальвала Казімера Прунскене, але нічога тут экстраардынарнага няма. У маладосьці яна мела самыя непасрэдныя адносіны да гульні.

Украіна хварэе на футбол яшчэ з часоў супрацьстаяньня ў чэмпіянаце СССР паміж кіеўскім "Дынама" і расейскімі клюбамі. Гульні Ўкраіна—Расея — сапраўдныя бітвы і відовішчы. А ўкраінскія палітыкі спрабуюць падвышаць уласны рэйтынг праз прыхіль-

## Будзем удзячныя трэнэру Малафееву ўжо за тое, што маем зараз



IREX-PROMEDIA

**Будзем удзячныя трэнэру Малафееву ўжо за тое, што маем зараз. Першы раз я пабачыў гэтага чалавека гадоў дзесяць таму. Ехаў сабе ў тралейбусе недзе на пачатку вул.Маякоўскага, а ў гэты час нас абганяў дынамаўскі фірмовы аўтобус. Каманда ўся сядзела, а Малафееў ехаў стоячы. Дык ён заўважыў, што я яго пазнаю, і першы мне пакланіўся — мне, чалавеку абсалютна незнаёмаму!**

**У сваёй кнізе "Футбол. Управа, улева і ў вароты" Малафееў з чыста беларускай шчырасьцю напісаў: "Я ўпэўнены, што як мінімум да 90 гадоў буду працаваць трэнэрам". А нядаўна на пытаньне, ці пойдзе ў адстаўку, калі ў гэтым адборачным цыкле выніку ня будзе, адказаў: "Калі армія прайграла, што ж павінен зрабіць палкаводзец?".**

**Нават калі мы зоймем трэцяе месца ў групе, то наступным разам беларускую зборную "пасеюць" сярод мацнейшых і мы ня будзем мець столькі моцных супернікаў.**

**Дык хадзем жа ўсе, хто можа, на футбол!**

A.U.

# Сьмелыя паасобку, асьцярожныя разам

**Беларускі ПЭН-цэнтар быў створаны ў 1989 г. як непалітычная грамадзкая арганізацыя. У траўні 1990 г. ён увайшоў у Міжнародны ПЭН-клюб.**

У 1994 г. ПЭН-цэнтар устанавіў дзьве штогадовыя літаратурныя прэміі — імя Алеся Адамовіча й імя Францішка Багушэвіча. Першая ўручаецца штогод 3 верасьня за лепшыя публіцыстычныя творы й мае выгляд мэдаля, дыплёму і грашовай сумы. З 1996 г. ляўрэатамі прэміі сталі Сяргей Пятроўскі, Рыгор Барадулін, Віталь Тарас, Аляксандар Ступнікаў, Людміла Хейдэрава, Ігар Германчук, Барыс Хамайда, Герман Кірылаў, Жанна Літвіна, Сяргей Дубавец, Міхась Скобла, Сяргей Шупа. Прэмія імя Багушэвіча ўручаецца штогод 22 сакавіка за выдатную гістарычную прозу. Яе ляўрэатамі сталі з 1996 г. Кастусь Акула, Уладзімер Арлоў, Генадзь Сагановіч, Лявон Баршчэўскі, Міхась Чарняўскі, Аляксандар Лукашук, Васіль Сёмуха, Іван Саверчанка, Тацяна Процька, Ала Сакалоўская, Вячка Целеш, Алесь Белы.

**Карлас Шэрман, які 12 год цягнуў воз ПЭН-Цэнтру**

У ПЭН-цэнтар уваходзяць 54 беларускія пісьменьнікі. Сярод іх — Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Сьвятлана Алексіевіч, Уладзімер Арлоў, Міхась Тычына, Валянцін Тарас, Карлас Шэрман і інш.

**Міжнародны ПЭН-клюб быў заснаваны ў 1921 г. у Лёндане як сусьветная непалітычная асацыяцыя пісьменьнікаў, створаная для інтэлектуальнага міжнароднага супрацоўніцтва, разьвіцьця й абароны культуры ад сучасных пагрозаў і выклікаў; для абароны свабоды творчасьці, для перакладу літаратуры "малых" народаў. ПЭН-клюб мае статус "А" ў ЮНЭСКА й дарадчы статус у ААН. Складаецца з 135 нацыянальных цэнтраў, сярод якіх беларускі. Стацца сябрам ПЭН-клюбу можа любы літаратар, які публікуецца.**
**Скарот П.Э.Н. (P.E.N.) паходзіць ад ангельскіх словаў poets (паэты), playwriters (драматургі), essayists (публіцысты), editors (рэдактары) і novelists (празаікі).**

ПЭН-цэнтар абараняе аўтарскія правы, дапамагае пры заключэньні дамоваў, у т.л. з замежнымі выдаўцамі, бярэ ўдзел у Міжнароднай праграме ўзаемных мастацкіх перакладаў з мэтай стварэньня бібліятэкі сучаснай сусьветнай літаратуры. Адным са сваіх абавязкаў Беларускі ПЭН-цэнтар лічыць абарону грамадзянскіх, эканамічных і культурных правоў пісьменьнікаў і журналістаў.

Аднак у вачох беларускага грамадзтва ПЭН-цэнтар ня стаўся сапраўды ўплывовай арганізацыяй. Кожны пісьменьнік паасобку нібыта й мае маральны аўтарытэт, але яны не сумуюцца ў супольны аўтарытэт БПЦ.

Магчыма, гэта можна патлумачыць пасіўнасьцю ПЭН-цэнтру да грамадзкіх справаў. Між тым, у грамадзтве ўсталявалася атмасфэра хамства й вульгарнасьці, якую насаджаюць людзі, што мусілі б несьці культуру ў масы — працаўнікі тэлевізіі, радыё, дзяржаўных выданьняў. Зьбіваюць творцаў — Артура Вольскага, Юр'я Хашчавацкага, Паўлюка Канавальчыка, Славаміра Адамовіча, музыкаў з NRM (Лявон Вольскі з-за свае вядомасьці не рызыкуе сядзець у кавярнях у цэнтры гораду). Менскі бард Уладзімер Бобрыкаў пасьля выкананьня сваёй "Лукініяды" быў зьбіты ля грымёркі і месяц прабыў у рэанімацыі. І ніхто не шукаў выканаўцаў.

**Уладзімер Арлоў**

Сёньня адбудзецца арганізацыйны сход Беларускага ПЭН-цэнтру, на якім маюць пераабраць віцэ-прэзыдэнта арганізацыі. Прэзыдэнтам зьяўляецца Васіль Быкаў, але ён на эміграцыі, таму фактычна ад віцэ-прэзыдэнта залежыць палітыка ПЭН-клюбу. На гэтай пасадзе 12 год прапрацаваў Карлас Шэрман, які апошнім часам цяжка хварэе. "Не надавайце такога значэньня звычайнаму арганізацыйнаму сходу, — просіць ён. — Мы проста зьбіраемся пераабраць віцэ-прэзыдэнта ПЭН-цэнтру. Я хворы і не магу больш несьці такія нагрузкі. Рада ПЭН-цэнтру рэкамэндуе Адама Мальдзіса. ПЭН-цэнтар будзе працаваць, бо нашыя мэты нязьменныя і ня так ужо залежаць ад пэрсаналіяў".

Адам Мальдзіс фактычна прыступіў ужо да працы ў якасьці віцэ-прэзыдэнта. У Скарынаўскім цэнтры яго выцесьнілі з пасады кіраўніка на карысьць, калі верыць неафіцыйнай інфармацыі, "больш элястычнай асобы". Рада ПЭН-клюбу, перш чым вылучыць Мальдзіса, разглядала кандыдатуру Ўладзімера Арлова. Для маладзейшых сябраў ПЭН-цэнтру гэта быў вельмі жаданы кандыдат, аднак старыя зубры вырашылі, што Арлоў — чалавек свабодных часоў, а на час ненармальнай дзяржаўнай палітыкі ў сфэры культуры трэба шукаць больш кампраміснаю фігуру, якая мае кантакты і зь дзяржаўнымі органамі, і зь беларусамі замежжа.

Адам Мальдзіс сказаў, што сябры Рады дамовіліся не даваць ніякіх інтэрвію, пакуль сход ня скончыцца. Журналісты на сход дапускацца ня будуць. Пасьля сходу адбудзецца ўручэньне прэміі імя Адамовіча й круглы стол, прысьвечаны ўгодкам пісьменьніка. Тады можна будзе й атрымаць інфармацыю. У.Арлоў лічыць, што "ў беларускага ПЭН-цэнтру значна больш праблемаў у сэнсе забесьпячэньня свабоды творчасьці ў Беларусі. Улада пазірае скоса, былі складанасьці зь перарэгістрацыяй. Гэта звужвае магчымасьці для працы ПЭН-цэнтру. У будучыні мы, да прыкладу, зьбіраемся зрэалізаваць нашыя пляны пра часопіс беларускага ПЭНу і выданьне бібліятэкі ягоных сяброў". З Саюзам пісьменьнікаў, па ягоных словах, ПЭН-цэнтар ніякіх супярэчнасьцяў ня мае: "Многія сябры СП зьяўляюцца адначасна й сябрамі ПЭНу. Гэта нармальна — мець некалькі пісьменьніцкіх асацыяцыяў. Праўда, у некаторых старых пісьменьнікаў існуюць рэліктавыя ўяўленьні пра ПЭН-цэнтар. Так, нядаўна, на зьезьдзе Саюзу пісьменьнікаў адзін зь іх патрабаваў пазбавіць сяброў ПЭН-цэнтру права вырашальнага голасу".

Адкрытымі застаюцца пытаньні, ці здольны БПЦ стацца арганізацыяй, якая забясьпечыць культурны працэс заўтра, якое месца Цэнтар будзе займаць у беларускім грамадзтве, у тым ліку адносна СП, якую ролю будзе граць у выдавецкіх праектах і ў лёсах пісьменьнікаў ва ўмовах неадэкватнае дзяржаўнае культурнае палітыкі. А роля гэтая можа быць выключнаю.

**Сьвятлана Курс**



IREX-PROMEDIA

Адам Мальдзіс

## ПЭН у віртуальнай прасторы

**ПЭН-цэнтраўскі сайт (www.pen.unibel.by) мае прыемны выгляд пад рэтра, пясочны колер, працуе апэратыўна, але беднаваты на інфармацыю. Навіны не абнаўляліся з 25 траўня. Форуму няма, няма з кім і літаратуру абмеркаваць. Ні на водным зь вядомых тэматычных літаратурных і культурных сайтаў я не знайшла спасылкі на ПЭНаўскі сайт. А на добры лад менавіта ПЭН як сучасная пісьменьніцкая арганізацыя мусіць актыўна працаваць у Сеціве, мець сеткавую бібліятэку, сайт, форум, інсьпіраваць зьяўленне беларускай "сеціратуры" й г.д. Наклады беларускіх папяровых выданьняў малыя і таму высоказатратныя. Многія аўтары ня могуць дазволіць сабе выдаць кнігу. А вось у Сеціве яе можна зьмясьціць за капейкі. Набраў, адсканаваў, зьмясьціў, прарэклямаваў — і такім чынам дайшоў да чытача.**

**Гэтак, дарэчы, робіць Лявон Вашко, пісьменьнік з Мастоў. Рассылае па пошце "аляктронную ведамку "Духахрам" і заманьвае на сваю старонку.**

## Лісты ў рэдакцыю

### Эўрарамонт у "зялёным"

**Стаяў у Глыбокім на колішняй Віленскай вуліцы (цяпер Леніна) несамавіты магазін. Быў ён драўляны, ашаляваны, пафарбаваны ў зялёны колер. Сустракаеш мінака. У торбе — лівэрка.**

"Дзе браў?" — "Дзе, дзе! У "зялёным"!" Запытайся ў любога ў Глыбокім: "Дзе знаходзіцца магазін №8?". Ня ведае ніхто! А вось пра "зялёны" магазін чулі ўсе, нават у Докшыцах і Шаркоўшчыне.

На досьвітку "перабудовы" глыбоцкае гандлёвае начальства абмуравала яго белай сылікатнай цэглай. Ня вытрымала сэрца аднаго з патрыётаў гораду. Уночы, зялёнай фарбай, на ўсю сьцяну, вялікімі літарамі нехта напісаў: "ЗЯЛЁНЫ"! Гэта было першае ў гісторыі Глыбокага графіці (калі не лічыць словаў пікантнага характару, якія пісаліся на сьценах заўсёды і пры любой уладзе).

Гандлёвае начальства абдумалася. Падчас рамонту, калі краму вапнавалі, у рошчыну дадавалі зялёныя фарбавальнікі, дый лягатыпы на шыльдах пісалі зялёным колерам. Народ супакоіўся. Доўжылася гэта гадоў дзесяць. І вось раптам — эўрарамонт! За пару тыдняў ашалявалі сьцены плястыкам, у краме паставілі мадэрновыя вокны, дзьверы й найноўшае абсталяваньне, а дварышча ўпрыгожыла плітка, яшчэ пякнейшая, чымся ў Менску на праспэкце Скарыны. Вы запытаеце: "Ці засталося там нешта зялёнае?". Дык вось: страху накрылі зялёнай мэталадахоўкай!

Малайцы, захавалі легенду глыбоцкага гандлю.

**Уладзімер Скрабатун, Глыбокае**

### Супраць усіх

**Ведаю, што гэты ліст Вы можаце не надрукаваць, бо мой падыход можа падацца "неканструктыўным". Я буду галасаваць на выбарах супраць усіх, і вось чаму.**

Я чалавек, для якога паняцьці "заходнія вартасьці", "эўрапейская культура", "беларуская мова" — непарушныя. Я на гэтым вырас. Не хачу галасаваць за кандыдата, які не гаворыць па-беларуску, а Беларусь бачыць "мостам" паміж Усходам і Захадам або кактэйлем Усходу і Захаду. Кампрамісы ў гэтай сытуацыі мне падаюцца справай гнілой. Чым болей мы паддаемся, тым болей нас гнуць. Такі ўжо этап гісторыі, што патрэбная бескампраміснасьць! Калі б я не прыйшоў на выбары або проста сапсаваў свой бюлетэнь, гэта быў бы голас на карысьць цяперашняй улады, якая "сваіх" выбарцаў якраз на ўчасткі выведзе, а, калі трэба, нават прывядзе. А вось мой голас "супраць усіх" будзе голасам у абарону нацыянальных прынцыпаў.

**Барыс Тумар, Менск**

## Мараль і права

# Пісьменьнік

**Намесьнік старшыні Дзяржкамдруку і сябар Саюзу пісьменьнікаў Уладзімер Глушакоў быў пастаўлены выканаўцам абавязкаў дырэктара друкарні "Мэджык". Гэта была ўмова, без выкананьня якой улады не пагаджаліся зьняць арышт з абсталяваньня прадпрыемства. За тыдзень новае службы Ў.Глушакова быў арыштаваны тыраж газэты "Рабочы", а *"Предпринимательская газета"* выйшла зь белымі плямамі на месцы "няправільных артыкулаў". На думку сп.Глушакова, *"Предпринимательская газета"* сама вырашыла выйсьці зь белымі плямамі, бо гэта цяпер модна". У той жа час у рукі журналістаў патрапіў макет *"ПГ"* да цэнзураваньня. У верхнім куце справа надпіс: "№32. Не возражаю. Кроме статьи "Послание соотечественникам..." Вл.Глушаков 30 авг.".**

**Сваімі дзеяньнямі намесьнік старшыні Дзяржкамдруку парушыў Закон аб друку. А ці парушыў маральныя нормы творчага саюзу пісьменьнік Уладзімер Глушакоў? "НН" зьвярнулася да аўтарытэтных творцаў з пытаньнем: ці мусіць Саюз пісьменьнікаў адрэагаваць на тое, што адзін зь ягоных сяброў ажыцьцяўляе цэнзарскія функцыі?**

**Лідзія Арабей:** Я наагул супраць таго, што дзеецца з друкам, літаратурай, культурай і мовай у Беларусі. Я — супраць гэтага ўраду. Глушакоў — толькі частка антыкультурнай палітыкі. Тое, што зараз робіцца з нашай прэсай і тэлевізіяй — ганьба. Саюз пісьменьнікаў маўчыць і нічога ня робіць, ідзе на повадзе ўва ўраду. Хіба так мусяць паводзіцца пісьменьнікі? Гэта абуральна й ненармальна.

**Навум Гальпяровіч, намесьнік Старшыні СП:** Сп. Глушакоў выконвае свае службовыя абавязкі, не зьвязаныя зь сяброўствам у Саюзе пісьменьнікаў. У СП згуртаваліся людзі розных прафэсіяў, рознага веку і поглядаў, і мы ня можам ацэньваць службовую дзейнасьць гэтага чалавека.

**Артур Вольскі:** Я рэзка адмоўна стаўлюся да цэнзарства. А за ўсю арганізацыю казаць не магу. СП — складаная арганізацыя. На апошнім зьезьдзе пры выбарах у Раду былі забалятаваныя людзі, якія абслугоўвалі рэжым. І ў той жа час многія пісьменьнікі, нават і з імёнамі, крукам гнуцца перад калегамі з СП — чыноўнікамі, такімі, як Глушакоў. Бывае брыдка глядзець.

**Раіса Баравікова:** Нічога ня чула пра ўчынкі Глушакова. Гэта справа ягонага сумленьня й адказнасьці. У дэмакратычнай краіне чалавек сам зьдзяйсьняе свой выбар. Гэта раней, пры камуністах, СП мог выклікаць "на дыван", прапясочыць чалавека.

**Антаніна Хатэнка:** Не ўяўляю мэханізмаў такога рэагаваньня.

**Васіль Сёмуха:** Я асуджаю і тое, што робіць сп.Глушакоў як цэнзар, і тое, чым ён займаўся раней. Але ад усяго Саюзу цяжка чакаць адпаведнае рэакцыі. У наш час, калі палітыка паблыталася са злачын-

# Цэнзура

**Самая прыкметная зьява ў сёньняшнім грамадзкім жыцьці — цэнзура. Даўняя знаёмая, яна захінае сваімі белымі прасьціradламі ня толькі лічбы і факты, але й жывых людзей. Яна злавесная і бязьлітасная, нелягічная, амаральная і нахрапістая, яна ўсюдысная. У страху ёй прыслужваюць малыя і вялікія начальнікі, падымаюць яе сьцяг паспалітыя грамадзяне. Хтосьці кідаецца, каб сарваць ейныя прасьціradлы, але большасьць паўтарае нібы заклён: так і павінна быць.**

Сёньня цэнзура забароненая беларускім заканадаўствам. Яна супярэчыць міжнароднай Дэклярацыі правоў чалавека. Тым ня менш, яна ёсьць.

Цэнзура прыйшла ў Беларусь з прыходам расейскае адміністрацыі 200 гадоў таму. Адно зь першых сьведчаньняў знаходзім у лісьце Яна Чачота да сябра. 1822 год. Гаворка ідзе пра творы Адама Міцкевіча, якія будуць друкавацца ў Варшаве, бо тут, у Вільні, — піша Чачот, — зубатая цэнзура. Ужо тады — зубатая. Гэта і зь ейнымі зубамі будуць змагацца паўстанцы 1831 і 1863 г.

Машына расейскае цэнзуры прыйшла ў Беларусь на штыхах, забараніла друкаваньне па-беларуску і была цынічна адкрытаю. Кнігі і часопісы без пазнакі "Дазволена цэнзурай" не выходзілі або друкаваліся за мяжой — ва Ўсходняй Прусіі. Творы Янкі Лучыны выдалі ў сталіцы імпэрыі — Санкт-Пецярбургу, але з пазнакаю "На болгарском языке", каб увесьці ў зман цэнзуру. Першая беларуская газэта "Наша Доля" ўжо пасьля дазволу беларушчыны ўсё адно забаранялася цэнзурай, яе нумары канфіскоўваліся. Сякая-такая адліга настала ў першыя савецкія часы, прыблізна да 1929 г. Але той пэрыяд — перад рэпрэсіямі — нібы кароткі ўздых на поўныя грудзі. Пасьля вайны пачаліся доўгія гады адваёўваньня ў цэнзуры то слова, то імя, то нават літары. З найдрабнейшых крупінаў здабывалася тое сваё поле, на якім можна было б зноў ажыцьць беларушчыне.

Пасьля распаду СССР загаварылі пра наступствы Чарнобылю, гістарычную праўду, сталінскія рэпрэсіі. Але неўзабаве і гэтая адліга скончылася.

Гісторыя найноўшае цэнзуры бярэ свой пачатак ад газэтаў, што выйшлі ў 1995 г. зь белымі плямамі па волі Лукашэнкі й Фядуты, ды са зьняцьця выставы мастацкай суполкі "Пагоня" ў 1996-м. Пасьля "экскурсіі" ў Палац мастацтва чыноўнікаў з Лукашэнкавай адміністрацыі, на паседжаньні ў Саюзе мастакоў было вырашана выставу зьняць. Галоўным непажаданым творам стала калектыўная праца мастакоў: балотнае пудзіла ў касцы з гумовым дручком, тэнісная ракетка й бярозавым венікам. З таго разу ці не на ўсіх выставах "Пагоні" адбываецца традыцыйныя скандалы: то творы здымаюць і ставяць да сьцяны, то яны проста прападаюць...

Сутнасьць цяперашняй цэнзуры можна параўнаць з хрушчоўскай. Тады хіснуліся падгнілыя палі сталінізму, сёньня — разьвітага сацыялізму. Сутнасьць цэнзуры ні тады, ні цяпер не зьмянілася. Папросту цяперашні рэжым таксама яшчэ не завершыў сваёй крышталізацыі, яшчэ ня стаўся таталітарным.

Калі пасьля выбараў ён захаваецца, будуць зробленыя новыя крокі ў гэтым кірунку. Як пасьля першых выбараў былі ліквідаваныя недзяржаўныя электронныя мэдыі, так цяпер мусяць быць зачыненыя і друкаваныя. Зусім як пасьля хрушчоўскае ідэалягічнае замінкі. А там і да мастакоў вернуцца так званыя мастацкія рады зь людзьмі ў цывільным.

Цэнзурнае дзеяньне скіроўваецца найперш супраць усяго беларускага, нацыянальнага. За ўсю гісторыю для Беларусі, яе нацыі і культуры існавала і існуе толькі адна цэнзура — чужая. Ніякай сваёй мы ніколі ня ведалі й ня ведаем.

**Сяргей Паўлоўскі**

# Дасье на Цэнзуру

**Выйшаў 15-ы нумар маскоўскага часопісу "Досье на цензуру". Гэта расейская вэрсія ангельскага выданьня *"Index on Censorship"*. Чарговы нумар цалкам прысьвечаны Беларусі. Журналісты, эсэісты, навукоўцы распавядаюць расейскаму чытачу пра наш край.**

У 96-м прысьвячаўся Беларусі і нумар ангельскага выданьня, якое знаёміла з выпадкамі цэнзуры, падавала пераклады забароненых тэкстаў. Там пераважалі пісьменьнікі і літаратурныя тэксты. Сёньняшні расейскі часопіс карэнна адрозьніваецца. Ён больш журналісцкі, калі не сказаць газэтны. Аўтары робяць калектыўную разборку паняцьцяў Беларусь, беларуская нацыя, мова, беларускі лёс. Яны абвяргаюць і даказваюць існаваньне Беларусі.

Нумар называецца "Дрыгва на краі Эўропы".

Аналізу мэханізмаў цэнзуры ў Беларусі, як і самых прыкладаў, у часопісе няма. За выключэньнем хіба што нататкі Аляксандра Фядуты пра тыя скандальныя "белыя плямы" ў *"Советской Белоруссии"* і іншых афіцыёзных выданьнях на месцы антыкарупцыйнага дакладу. Сканчаецца тая нататка горычным уздыхам аўтара: "А змагаемся ўсё болей са справамі рук сваіх".

Індэксу фактаў часопіс не дае, хоць фактаў больш чым дастаткова. Прычына ў тым, што часопіс разьлічаны на расейскага чытача і што для расейскага інтэлігента цэнзура — гэта зьява свая, расейская. Так склалася гістарычна. Чыя ўлада, тых і цэнзура. З цэнзурных камітэтаў там выходзілі майстры пяра, клясыкі літаратуры. І тут прынцыповае адрозьненьне зь беларускай сытуацыяй, дзе цэнзура заўжды была прышлай і антыбеларускай. Ці то ўласна расейская царская цэнзура, ці цэнзура марыянэткавага ўраду, ці прарасейская цяперашняя.

Расейскаму інтэлігенту ўласьціва разважаць пра цэнзуру і дэмакратыю, містыфікуючы гэтыя паняцьці. Дэмакратыя, кажуць яны, абстрактная, а карані цэнзуры — у недасканаласьці сьвету. На тое й цэнзура, каб яе ўмела абыходзіць, — кажа расейскі пісьменьнік. Цэнзура ў Расеі можа быць уважлівай і чуйнай, "нястрогай", схаванай і адкрытай, беларуская — толькі рэпрэсіўнай. Расейцы спрачаюцца пра цэнзуру на карысьць грамадзтва. Словам — цэлая палітра фарбаў. Для беларушчыны цэнзура — без адценьняў. Гэта заўсёды адназначна нэгатыўна — як сьмерць, як забойства.

Тое, што расеец можа ўспрымаць як літаратурную гульню, у нас разумеецца толькі як ганебнае — самацэнзура. Гульня з уласнай грамадзянскай годнасьцю і сумленьнем. Нарэшце, у расейскай літаратуры нярэдка можна сустрэць выраз — "айчынная цэнзура", увяўць які ў Беларусі зусім немагчыма.

Гэткае зусім процілеглае значэньне цэнзуры ў Расеі і Беларусі і прывяло да адсутнасьці ў маскоўскім часопісе "Досье на цензуру" фактаў. Затое расейскі дасьледуюць іншую тэму — Беларусь. Што ж гэта за штука такая, як яе зразумець? Аўтары ў большасьці сваёй імкнуцца знайсьці Беларусь у самых сабе — просяць яе адгукнуцца. Іншым разам небеспасьпяхова.

Мне згадваецца герой аднаго гішпанскага фільму — стары настаўнік, які кажа зусім простыя словы: "Толькі адно пакаленьне павінна вырасьці ў свабоднай Гішпаніі, і Гішпанія больш ніколі ня будзе несвабоднай краінай". Ішоў 1936-ы год, пачатак фашызму. Настаўніка расстралялі, але праўда ягоных словаў засталася. Што для Гішпаніі, што для Беларусі.

С.П.




# з нажніцамі

ствам, цяжка гаварыць пра прынцыпы.

**Беларускія пісьменьнікі адмаўляюцца валадарыць над душамі чытачоў. "Нічога ня чула...". Палітыкаў забіваюць!.. А я нічога ня чуў. Школьнікаў арыштоўваюць за мову! Ня чуў, ня ведаю. Быкаву брыдка стала жыць у такой краіне! Гэта ягоная справа.**

**Пісьменьнікі сталі палітыкамі — стрыманымі ў ацэнках і ласымі на каньюнктуру. Калі ж ты стаўся палітыкам, дык ці далёка і да цэнзарства?**

**Глушакова чакае вялікая будучыня: цёплае міністэрскае месца свайго цяперашняга шэфа-лібэрала Падгайнага або пасольская кар'ера ў блізкай і ўтульнай Латвіі, дзе цэны нізкія, а пасольскі заробак высокі. А мо нават рэдактарства ў "Советской Белоруссии". Бліжэй пад пэнсію можна будзе ўзначаліць і пісьменьніцкую арганізацыю саюзу Беларусі і Расеі. І навечна заняць месца ў ганаровым сьпісе побач з Замяталіным, Чыкіным, Росьцікавым, Скобелевым, Чайкай, Зімоўскім, Гукоўскім, Казіяткам і Азаронкам.**

**Сьвятлана Курс, Сяргей Мікулевіч**

## РАЗАНАЎ І ЎРОХЕМ

**6 верасьня Інстытут Гётэ і Белдзяржфілярмонія ладзяць у касьцёле Сьв.Роха літаратурна-музычную імпрэзу "І вынайшаў я крылы — вось яны...".** Бяруць удзел нямецкі кампазытар Еган Урохем і паэт Алесь Разанаў. Гучаць вершы Алеся Разанава ў арыгінале і ў перакладзе на нямецкую мову ў суправаджэньні музыкі, напісанай на гэтыя вершы. Пачатак а 19-й. **Запрашэньні на імпрэзу можна атрымаць у Інстытуце Гётэ па адрасе: вул.Фрунзэ, 5, Дом літаратара, п.105.**



**26 жніўня ад інсульту памёр ВАЛЕРЫ МАСЬЛЮК. Яму было 49 год. За сваё тэатральнае жыцьцё В.Масьлюк папрацаваў у Віцебскім тэатры імя Якуба Коласа, менскім Расейскім драматычным тэатры імя Горкага, Магілёўскім абласным драматычным тэатры. З 1997 г. вярнуўся ў Віцебск. Сярод найбольш значных працаў Масьлюка былі "Любоў, джаз і чорт" Ю.Грушаса, "Знак бяды", "Пакахай мяне, салдацік" В.Быкава, "Кароль Лір" У.Шэкспіра. Драматург Аляксей Дударaў лічыць, што найбольш запамінальным спэктаклем Масьлюка быў "Клемэнс" паводле п'есы літоўскага драматурга К.Саі. Во гэтак — рэжысэр, якога мала ведалі, паставіў самы вядомы спэктакль паводле аўтара, якога мала ведалі. І памёр — у 49 гадоў... Валеры Масьлюк стаяў ля вытокаў беларускага адраджэнскага руху пры канцы 80-х, быў удзельнікам аргкамітэту БНФ "Адраджэньне". Гэта быў выключна далікатны, інтэлігентны, глыбокі і таленавіты чалавек. Валеры Масьлюк баліюча перажываў зьвыклыя закулісныя інтрыгі, характэрныя для тэатральнага жыцьця. Яны істотна скарацілі яму век.**

## Навіны за тыдзень

### Агінскі ў Маладэчне

**Пазаўчора ў Маладэчне насупраць музычнае вучэльні адкрылі помнік графу Міхалу Клеафасу Агінскаму** — палітычнаму дзеячу Вялікага Княства Літоўскага, вядомаму кампазытару. Стварыў помнік скульптар Валеры Янушкевіч. Удзел у адкрыцьці ўзялі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі і нашчадкі кампазытара.

**Паводле БелаПАН**

## Дзе варта быць

### Рок-інтэграцыя

**8-га ў "Парк-клюбе" (парк Чалюскінцаў) а 18-й пачнецца канцэрт "Рок-інтэграцыя".** Інтэгравацца будуць беларусы — "Крама", NRM, "Нэйрадзюбель", ТТ-34, украінцы — *Мертвий Півень*, палякі — 0-85 і ангельцы — *Mauze*. Таксама прагучаць песьні з нашых супольных праектаў "Narodny albom" і "Я нарадзіўся тут". Карацей — супэр-шоў усяго за 3000.

Яшчэ ў суботу ў сквэры Янкі Купалы з 12 да 13-й можна будзе памяняць касэты з расейскай папсьнёй да блатнёй на нармальную сучасную беларускую музыку.

### Тайны курганоў

**10-га а 13-й на БТ выйдзе праграма "Тайны курганоў Аўгустова".** Аўгустова — вёска пад Лепелем (цяпер завецца Зьвязда), вакол якой шмат старажытных пахаваньных курганоў. Паданьне кажа, што гэта "французскія" альбо "швэдзкія" курганы, але раскопкі маладых археолягаў, праведзеныя ў прысутнасьці здымачнай групы, даказваюць, што гэта крывіцкія пахаваньні IX—XVI ст.

### Выбары

**9 верасьня — галасаваньне.**

**Дзяніс Носаў, dzie@tut.by**

# Ці пагадзіліся б мець зяцем кадэбіста?

Працяг са старонкі 3.

Дый злачынныя загады яны юрыдычна могуць не выконваць. Але на практыцы ўсё залежыць ад прыстойнасьці начальства, у якога шмат спосабаў "абʼезьдзіць сіўку". У крайнім выпадку, застаецца магчымасьць пакласьці на стол заяву і сысьці. Гвалтам цяпер не трымаюць. Але калі чалавек выконвае злачынныя загады з пачуцьця самазахаваньня, ён усё адно мярзотнік.

**Сьвятлана Грыгаровіч, 40 год, гандлярка, дачцэ 16 год:**

— Трэба ведаць, чым ён там займаецца. Яны, мабыць, усе аднолькавыя. Высочваюць людзей і ў турму садзяць. Дык калі злых людзей садзяць, наркадылераў — то хай мая дачка йдзе за яго, а як простага якога небараку за мех мукі — дык гэта грэх, і жыцьця з такім ня будзе. Зрэшты, калі яна яго пакахае, што ж зробіш, хай тады ідзе. Але я б хацела знаць, што ён робіць на працы. Пагаварыць зь ім трэба было б, прыглядзецца. А раптам ён расстрэльвае каго ў падвале?

**Тофік, бізнэсовец, 38 год:**

— У мяне тры сыны. Але каб была дачка, то не аддаў бы, хоць бы плакала. Не падабаюцца мне гэтыя "шчэрлыцы". Але знаёмствы там мець карысна.

**Ніна Ф.:**

— Мая дачка сем гадоў таму выйшла замуж за лейтэнанта КДБ. Я ня ведаю, чым ён займаўся й займаецца. Мы пра гэта ніколі не размаўлялі. Нейкіх пярэчаньняў супраць ягонай прафэсіі ні я, ні дачка ня мелі. Я ня ведаю, ці з-за службы ў КДБ Саша пачаў піць, зрабіўся жорсткі, зьдзекаваўся фізычна й маральна з дачкі й унучкі і ўрэшце выгнаў іх з кватэры без аліментаў. Ягонае кіраўніцтва быццам стала на бок маёй дачкі, праз некаторы час будзе суд, пабачым, ці адсудзім жыльлёвую квоту й аліменты.

# Ці пагадзіліся б Вы выйсьці замуж за кадэбіста?

**Аня, 16 год, марыць стаць мадэлькай:**

— Нізавошта ня выйшла б, бо хачу зьехаць за мяжу, а з-за яго ня выпусьцілі б.

**Наташа, супрацоўніца турбюро, 23 гады:**

— Так, выйшла б. За любога афіцэра, ня толькі КДБ. У іх ёсьць кодэкс гонару, яны стройныя, ня п'юць, ня кураць, і ўвогуле, гэта мужная прафэсія.

**Паліна, маладая мама, 18 год:**

— Напэўна, не. Гэта страшна. Яны неяк зьвязаныя са злачынным сьветам. З-за яго і я б магла атрымаць удар нажом. Лепей туды ня лезьці.

**Людміла, 25 год, выкладчыца:**

— Яны не адпавядаюць маім унутраным адчуваньням і перакананьням. Іхная рэакцыя на сьвет мне чужая. Ісьці туды могуць толькі людзі, якія адпавядаюць пэўным нормам, а я такіх нормаў баюся.

**Вольга Мацюшонак, 29 год, мэдык:**

— Я б ня выйшла замуж ані за чэкіста, ані за афіцэра. Яны вымушаныя выконваць загады. Гэта службы амаральныя ад пачатку. "Радзіму абараняць" — гэта міт. Сапраўдная іхная задача — ахоўваць інтарэсы ўладных асобаў, найвышэйшых эшалёнаў дзяржавы. Магчыма, гэта патрэбная служба, я дапускаю. Аднак мне ўсё роўна не падабаюцца падласьць і жорсткасьць, апраўданыя яны ці не.

**Апытвала Сьвятлана Курс**

# Юльян Сергіевіч

**Зачэпкай для напісаньня гэтага артыкулу стаўся ліст ад Г.Тарасевіча з Горадні:**

*"Дасылаю Вам верш Юльяна Сергіевіча, прысьвечаны дню 25 сакавіка. Верш гэты надрукаваны лацінкаю ў брашуры, якая была прысьвечаная 25-м угодкам БНР.*

*Перапісваў я яго недзе ў канцы пяцідзясятых. Ужо тады арыгінал быў моцна пашкоджаны, а цяпер ён зусім рассыпаўся, а таму прыкладаю толькі копію фрагмэнту арыгіналу, а дакладней — пачатак верша.*

*І яшчэ дасылаю перапісаную ў той жа час лістоўку (ці афішку, як у нас тады называлі), прысьвечаную тагачаснаму Беларускаму Народнаму Гімну — "Адвеку мы спалі" і яго варыянту, апрацаванаму паэтам Юльянам Сергіевічам.*

*Хто быў аўтарам тых лістовак, ня ведаю. Мо хто зараз адгукнецца праз "Нашу Ніву"."*

Імя Юльяна Сергіевіча доўгі час было пад замком забыцьця. Ягонае зламанае жыцьцё — яскравы прыклад таго, як карае Савецкая дзяржава за "грахі" маладосьці.

Нарадзіўся Сергіевіч 5 жніўня (па іншых зьвестках — 23 верасьня) 1910 г. у в.Юраўшчына Беніцкай воласьці Ашмянскага павету (сёньняшні Маладэчанскі раён) у беднай сялянскай сям'і. Чатыры гады (1921—1924) правучыўся ў пачатковай школе ў суседняй Ленкаўшчыне, дзе да рэформы 1924 г. трывала беларускамоўнае навучаньне.

Ягоным настаўнікам быў Мікола Абрамчык, будучы прэзыдэнт Рады БНР (1947—1970). Напэўна, Абрамчык і паўплываў на фармаваньне сьветапогляду Юльяна. Аднак ад беднасьці хлопцу давялося кінуць вучобу і дапамагаць бацьку па гаспадарцы. У 1932 г. яго прызвалі ў войска, аднак з-за слабога здароўя праз колькі месяцаў камісавалі.

Сергіевіч сачыў за нацыянальным кнігадрукам, выпісваў беларускія газэты і пісаў вершы. Ягоны першы верш "Музыка", зьявіўся ў паэтычным зборнічку "Рунь веснагоду" (Вільня, 1928). Потым Сергіевіч зрабіўся сталым аўтарам "Шляху моладзі".

Лета 1939 г. карэнным чынам зьмяніла жыцьцё маладога паэта. Перад вайной рэзэрвіст Сергіевіч быў мабілізаваны. Пасьля некалькіх дзён упартых баёў зь немцамі трапіў у палон. Прайшоў некалькі лягераў, у адным зь якіх быў разам зь Міхасём Васільком і Янкам Брылём. Пасьля Юльян працаваў на тартаку ў нямецкага баўэра ў Баварыі.

У 1940 г. у Бэрліне быў заснаваны Камітэт Беларускай Самапомачы, які ў хуткім часе займеў філіі па ўсёй Нямеччыне. Ягонай галоўнай мэтай была апека над беларусамі, былымі жаўнерамі польскага войска, што трапілі ў нямецкі палон. А такіх было 70 тысяч.

Бэрлінскі Камітэт Самапомачы ўзначальваў Мікола Абрамчык. Мусіць, ён і ўспомніў свайго былога вучня. Сергіевіча выкупілі й перавезьлі ў Бэрлін. Ён атрымаў працу ў Камітэце Самапомачы і ў газэце "Раніца".



23 жніўня 1943 г. менская "Беларуская газэта" зьмясьціла артыкул "Для Цябе, беларускі народ! Маладыя паэта Юльян Сергіевіч". Аўтар пад крыптонімам Я.Ш. пісаў: "На Бацькаўшчыне зусім малаведамы малады беларускі пясьняр Юльян Сергіевіч, паэтычны талент якога асабліва выявіўся апошнімі гадамі на балонах бэрлінскае беларускае газэты "Раніца". І з выгляду, і з усяго духовага складу паэта — тыповая беларуская натура. Ціхі, сьціплы, непрэтэнцыёзны, удумлівы, з гарачай патрыятычнай і палкай душой, грамадзкі, ідэёвы. Належыць да катэгорыі людзей, што свае прыродныя здольнасьці самаасьветай, упорыстай працай над сабою разьвілі й разгарнулі ў службе дарагой справе Беларусі, ейнай культуры, і маюць ужо немалыя дасягненьні... Сёньня паэта... завалены беларускай грамадзкай працай і мала зьвяртае ўвагі літаратурным творам і далейшаму разьвіцьцю свайго таленту, тым больш, што мае цэлы чарод сшыткаў вершаў і іншых твораў, яшчэ не надрукаваных".

У тым артыкуле былі зьмешчаныя тры вершы паэта, сярод якіх верш-песьня "Мы выйшлі із цемры мінулага веку", на матыў беларускай "Марсэльезы" — "Адвеку мы спалі". Магчыма, таму ён таксама займеў пазьней назву "Беларуская Марсэльеза".

Верш гэты паставіў у нумар тагачасны рэдактар "Беларускай газэты" Антон Адамовіч. Нямецкая цэнзура спачатку прапусьціла "Марсэльезу", аднак нейкі пільны беларус-прапагандыст, што скончыў адпаведныя курсы ў Бэрліне, угледзеў крамолу ў радках: "Мы дружна паўстанем з касамі, сярпамі,/ Прагонім зь зямлі палачоў!". І данёс у СД. Антону Адамовічу было прапанавана неадкладна пакінуць Менск і выехаць у Бэрлін. Той адмовіўся і праз нейкі час знайшоў у сваім пісьмовым стале міну. Паліцыянт-фальксдойч, што выносіў яе, выбухам быў разарваны на кавалкі (гэта апісаў у сваіх нататках пра Менск у "Беларускім голасе" Францішак Аляхновіч. Нататкі пазалетась перадрукаваў часопіс "ARCHE").

Прыйшоў 1945 г. Нямеччына капітулявала. На ейных абшарах знаходзілася блізу 500 тыс. беларусаў. Хто-ніхто зь іх выяжджаў у заходнія раёны Нямеччыны, каб унікнуць савецкай акупацыі й канцлягераў, а Сергіевіч вярнуўся ў Беларусь. Працаваў у Ленкаўшчыне настаўнікам. У 1946 г. яго арыштавалі. Яму прыпомнілі і працу ў "нацыянал-фашысцкім" Беларускім Камітэце Самапомачы, і публікацыі ў "Раніцы" і "Беларускай газэце". Далі 25 год. Пасьля амністыі ён вярнуўся ў Беларусь, але таўро мінулага не дазволіла займацца інтэлектуальнай працай. І да пэнсіі Юльян Сергіевіч адпрацаваў калгасьнікам у Ленкаўшчыне. Перапісваўся зь беларускімі літаратарамі — Ларысай Геніюш, Канстанцыяй Буйло.

Сергіевіч маляваў пэйзажы, размалёўваў насьценныя кілімы. Ягоныя працы экспанаваліся на рэспубліканскіх мастацкіх выставах.

Памёр Юльян Сергіевіч увосень 1976 г. Жонка паставіла на могілках помнічак з надпісам па-беларуску і зьехала зь Ленкаўшчыны.

Згадалі пра Сергіевіча толькі пры канцы 80-х. У 1989 г. у Менску, да 50-годзьдзя "ўзьяднаньня" Заходняй Беларусі з БССР, быў выдадзены зборнік заходнебеларускіх паэтаў "Ростані волі", у які ўвайшлі й вершы Юльяна Сергіевіча. Барыс Сачанка надрукаваў іх разам з творамі Базыля Камароўскага, Янкі Палоннага, Караля Шаняўскага і інш. у "Полымі" (1992, №9) у падборцы "Вершы з фашысцкай няволі". Сергіевіч быў уключаны ў даведнік "Беларускія пісьменьнікі". Прыязна напісаў пра яго ў аповесьці "Wilio, w głębokościach morza" польскі пісьменьнік Зьбігнеў Жакевіч. Сергіевічу прысьвяціў частку ўспамінаў краязнаўца Генадзь Кахаsucc Каханоўскі, які актыўна ліставаўся зь ім. (Адносіны Каханоўскага зь Сергіевічам — асобная тэма, вартая цэлага артыкулу.)

Драбніцы, драбніцы, драбніцы... Ніводнага цэльнага дасьледаваньня. Аскалепкі жыцьця, распыленыя па выпадковых публікацыях. Лёс дзясяткаў і сотняў беларускіх інтэлігентаў, для якіх адзіная магчымасьць працы на карысьць Краю была непарыўна зьвязаная з выбарам паміж двума драпежнікамі.

**Алег Гардзіенка**

## *БЕЛАРУСКАЯ МАРСЭЛЬЕЗА*

Мы выйшлі із цемры мінулага веку,
Пазналі, што трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Ў змаганьні дзяржаву здабыць.

Што гэта за марная доля такая —
Для нечай карысьці працуй.
На нашых абшарах чужынец гуляе,
А ты ў родным краі гаруй.

Даволі служыць, пакарацца прыблудам,
За крыўду панамі іх зваць —
Мы доўга цярпелі, цярпець больш ня будзем,
Пайдзем лепшай долі шукаць.

Палямі, лугамі прылучацца з намі
Грамадна рады Крывічоў.
Мы дружна паўстанем з касамі, сярпамі
Прагонім зь зямлі палачоў!

Сьляды паняверкі, няволі, прынукі
Затопча Вялікі Паход.
І злуча ў працы свабодныя рукі
Увесь беларускі народ!

## *ДА ДНЯ 25 САКАВІКА*

Сягоньня распалім сьвятло ўспамінаў,
Пайшоўшых у неварач розных часінаў.
Як многа падзеяў калісь галасьлівых
Разьвеяла рэха абшараў драмлівых,
І толькі ясьнеючай славы сьляды
Ня змогуць зацерці вякамі гады.

Калісьці ў хвалях зьвінячых прадвесьня
Імкненьне, як быццам прызыўная песьня,
Сабрала пад кліч змагароў за свабоду
Абвесьціць грамадна днём гэтым народу
Ад роднай краіны свой першы прывет,
Што грымнуў магутна — "няхай будзе сьвет!"

З усёй Беларусі вялікае веча
За праўду ў жыцьці барацьбой чалавечай
Нарэшце пісала агністае імя,
Якое тварыла цярпеўшай краіне
У досьвітках лепшага заўтра зару,
Як лёзунг магутны — "Жыве Беларусь!"

Народ, перажыўшы ўсе гвалты прыгонаў
І царска-жандарскіх рэжымаў-законаў,
Аддаўшы пад бой і пажары краіну
Народ у пагібелі той не загінуў,
Ён меў яшчэ сілу паўстаць зь небыцьця,
Абвесьціць на сьвет сваё права жыцьця.

Панурыя хмары варожых нам сілаў
Аднак вартавалі курганаў-магілаў,
Адкуль спадзяваліся зь мёртвых устаньне,
Каб гвалтаў сваіх даказаць выкананьне...
Іржаваю стальлю зьвінелі ізноў
Пракляцьце і ганьба чужых кайданоў...

За тым скрыжаваньнем вялікай дарогі
Ізноў напаткаліся ссылкі, астрогі,
Што мелі згасіць нашы іскры, надзеі,
Ды толькі ня можна згасіць той ідэі,
Якая калісь гэтым памятным днём
Успыхнула ў нас незгасімым агнём.

Якая парой метушні ўсенароднай
Паслужыць нам зоркай сьвятой пуцяводнай,
Прызыўна зьбярэ Крывічоў пакаленьне
Пад сьцяг барацьбы за сваё адраджэньне,
Якое прадбачыць сягоньня народ,
Як сьветлы і радасны сонца ўсход.

Сягоньня з нас кожны павінен прызнацца,
Ці мае ўстаць, ці бяздушна схавацца,
Як дух нашай волі ўзьнясецца на крыльле,
Каб чуцца нам пэўным з рахункам на сіле
І сіле варожай даць пэўны адпор
За свой родны край, за свабодны прастор.

Сыдзіце з дарогі, варожыя цені,
Бо далей ня змоўчаць вам нашы цярпеньні!
Даўнейшых прыгоньнікаў вольныя дзеці
Яшчэ вас паклічуць за крыўды і зьдзекі,
Каб далі прад судам на гэта адказ:
Чаго вы заўсёды хацелі ад нас?

Сягоньня, у часе вялікага сьвята,
Няхай будзе высака імя ўзьнята
Таго, хто калісьці цярпеў паніжэньне,
І зь верай у справу свайго вызваленьня
Мы скрышым мінулых вякоў ланцугі
За волю тваю, наш народ дарагі.

Цяпер няма часу на жальбы-стагнаньні
Нам трэба злучацца ў дружным змаганьні,
Каб хутка на нашых папаленых нівах
Ізноў зарунела багатае жніва
Той доўгачаканай шчасьлівай пары,
Дзе будзем мы вольныя гаспадары.

***1942 г.***

## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Беларускі Гістарычны Агляд**. T.VII. Сш.2. — Менск: Беларускі Гістарычны Агляд, 2000. — С.303—623. — Наклад 500 ас. ISSN 1392-902X

*У гэтым выпуску вы знойдзеце шмат рэцэнзіяў, напісаных І.Ганэцкаю, І.Клімавым, А.Краўцэвічам, В.Пазьняковым, С.Рудовічам, Л.Баршчэўскім ды інш. Цікавымі шырокаму колу чытачоў будуць тэксты А.Пятчыца "Пашырэньне праваслаўя ў Беларусі ў сярэдзіне—другой палове XIX ст.", С.Хоміча "Асноўныя этапы фармаваньня тэрыторыі БССР (1918—1926)", Л.Юрэвіча "Беларуская кнігавыдавецкая дзейнасьць у часе II сусьветнае вайны" ды інш. Часопіс можна набыць у сядзібе БНФ і ў "Акадэмкнізе".*

В.Быкаў. **Выбранае** / Для старэйшага школьнага веку. — Менск: Ураджай, 2001. — 415 с. — (Школьная бібліятэка.) — Наклад 36240 ас. ISBN 985-01-0388-8

*У кнігу з сэрыі "Школьная бібліятэка" ўвайшлі аповесьці "Абэліск", "Жураўліны крык", "Аблава", "Сотнікаў" і апавяданьні "Ружовы туман" ды "Сьцяна". Каштуе 520 р.*

С.Ёрш. **Усевалад Родзька**. Правадыр беларускіх нацыяналістаў. — Менск: Выд-ва "Голас Краю", 2001. — 36 с.

*У.Родзька — кіраўнік Беларускае Незалежніцкае Партыі, маёр Беларускае Краёвае Абароны ў часе апошняе вайны. Апрача жыцьцяпісу гэтага дзеяча, у кнізе зьмешчаныя цікавыя дакумэнты Ўправы вайсковых справаў Беларускае Цэнтральнае Рады.*

**Metriciana**. Дасьледаваньні й матэрыялы Мэтрыкі Вялікага Княства Літоўскага. T.I / Athenaeum, Аддзел сацыяльна-гістарычных навук Інстытуту гісторыі Нацыянальнае акадэміі навук Беларусі. — Менск: Athenaeum, 2001. — 186 с. — Наклад 300 ас.

*У кнізе сабраныя артыкулы з вынікамі досьледаў Літоўскае мэтрыкі: У.Сьвяжынскі "Праблема ідэнтыфікацыі афіцыйнае мовы Вялікага Княства Літоўскага", В.Мянжынскі "Пацьвярджальны прывілей 1552 г. месту Менску на Майдэборскае права" ды інш. Прадаецца ў сядзібе БНФ і ў краме "Акадэмкніга".*

**Хрысьціянскі філязафічны зборнік**. — Менск: Энцыклапэдыкс, 2001. — 168 с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-6599-30-X

*Зьмешчаныя артыкулы сучасных філёзафаў (Ж.Кат'е, Д.Басты, А.Малінара, Б. дэ Анджэліса), а таксама Тамаша Аквінскага ў перакладзе на беларускую мову. Пры канцы кнігі зьмешчаны лацінска-беларускі слоўнік філязафічных тэрмінаў.*

Г.Осипов, А.Зиновьев. **Белорусский фронт**. — Масква: ИСПИ Российской академии наук, 2001. — 50 с. — Наклад 1000 ас. ISBN 5-7556-0176-3

*Перадвыбарнае выданьне. Асьвятляе сытуацыю ў Беларусі з расейска-шавіністычных пазыцый. "Неабраньне Лукашэнкі прывядзе да адрыву Беларусі ад Расеі, да арыентацыі Беларусі на Захад", — сьцьвярджаецца ў выданьні. Брашура разьлічаная на прамываньне мазгоў тым славянафілам і адстаўнікам, чыя вера ў Лукашэнку пахіснулася.*

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**

# Людка Сільнова

## Новыя вершы

### Горад

Навагрудак — новы горад,
А Наваградак — стары.
І ляціць з бутэлькі корак
Аж да зорак угары!

Новы Горад на нябёсах,
А стары ў ільдах гадоў.
Паміж імі — шум калосься,
Веліч залатых шыхтоў.

### Сцэна

Наваградка
Сівыя сьцены
Мне нагадаюць
Вобраз сцэны

Купалаўскай:
У сьвятле і дыме
Там ходзяць
Зданямі жывымі

Князі, княгіні
І князёўны.
І сьвет адроджаны,
Чароўны

У жэстах,
Рэпліках актораў
Сьцьвярджае
Боскі сэнс паўтораў.

### Агонь і дым

Ізноў іду туды,
Дзе сцэна і заслона.
Нясу букет руды,
Ці вогненна-чырвоны.

Як у апошні раз,
Пастаўлю кветкі ў вазу...
Паэт — факір на час,
Ён выдыхае фразу.

І ты, мая душа,
І ног маіх палоньнік,
Ты дымам быў сьпярша,
А стаў — вогнепаклоньнік.

### Дым

Я кахала цябе маладым...
Пабялеў тваіх кудзераў дым.

Разаслалася барада
Туманом па палёх, гарадах.

Ты ляжыш, твае грудзі — гарой,
Старажытны нардычны герой.

Я на грудзі сваю галаву
Пакладу, як сьвятло на траву.

### Сіла

Табе — тысячагодзьдзі,
Мне — імгненьне.
Ты — плоць зямлі,
А я — сьвятла мігценьне...

Паесьць іржа
Апошні меч
бліскучы,
І стане сіла —
Мітам
Неўміручым!

### У музэі

Твайго мяча
Жалезныя карункі
Зазналі сьмерць
У часу пацалунках...

Куды цяпер
Набор крывых манэт?..
Крану рукой уяўны
Твой партрэт...

Пералячу
Зыначанай душой
У трэці... пяты...
Тысячны спакой...

Сьвятло — праходзіць
Праз халоднасьць шкла.
У Кнізе водгукаў
Пішу: "Была...".

### Ты

Кісельны бераг
Райскага спачыну
Малочным рэкам
Дзевы і жанчыны,

Ты — казка,
Ты — схаваны падарунак,
Падказка, код
І культавы малюнак.

Цябе люблю,
Цябе паўсюль шукаю —
Ад ранку
Да зьнямоглага зьмярканьня.

### Васількі

Цьвяткоў зубчатых раць
Вартуе замак сэрца...

Сінеюць і зьвіняць
Ільдзінкамі ў вядзерцы...

Як рыбак у рацэ,
Іх — назусім — ня зловіш...

О! Іх любіў яшчэ
Максім Багдановіч.

### Жыцьцё героя

Жыцьцё — авантура,
прыгода і подзьвіг!
Ня жарт, не насьмешка,
не карыкатура.
Пакуль твае вусны
лядок не ўхалодзіць
І дні не скароціць
труны лігатура.

### Дзіравыя словы

Я зноўку цырую
дзіравыя словы —
Запоўніць спрабую...
І латай чарговай

Падношу да рызаў
паношаных строяў
То кветку, то птушку,
то вобраз героя...

Я — Бог "па мячы"
і Паэт "па кудзелі"!
Іголка — мой стрыжань,
запраўлены гелем.

### Дзьмухавец

Адпусьці мяне,
Дзьмухавец!
Дазволь — рысу падвесьці,
Канец!

Разьляцецца
Ва ўсе бакі
У дзіравыя словы,
Радкі.

І — у змроку
Знайсьці спакой...
Зажаўцецца каб
З новай вясной!

Ты — мой шчыт, мой меч,
Друг, баец,
Круглатвары Бог —
Дзьмухавец!



## варштаты

### Арцём АРАШОНАК

* * *

Выйшла дзяўчына з лазьні,
А на грудзях... пацалунак
Дубовага лістка.

### Натальля БОРДАК

**DIES DOMINE**

Гаварліва
ніва падперазалася сьпелым калосьсем
з многагалосьсем
неба сапфіравага, зачаравана-бяздоннага
законнага —
адзінае, што дадзена спрадвеку
чалавеку
пазайздросьціць нават дзікая лілея
прывілеі
сьвяткаваць дзень незалежнасьці
выкарыстаньня
маўчаньня
ўпрыгожаных звонку пустэльнікаў
цывілізацыі.
Шыкуем палацамі,
прынамсі дзеля фэстаў багатых
на гучных датах
недзе аратар нясе краты ўсім паасобку,
за падробку
дабротаў рэчаіснасьці — узнагарода
цэламу народу —
межы каштоўнейшай ізаляцыі
і дыстанцыі
ад зямлі да плянэтаў сусьвету.
Прыкмета
мясьцінаў квітнеючага рабства —
спадарства,
што складае пампэзныя оды
брудным выгодам;
вянок стракаты заможнасьці надзень
у дзень
падзеньня харугваў дэспатызму!
Праз прызму
эпохаў не скажаецца пах расьліннасьці,
сваёй гасьціннасьцю
раскошна княжаць дубы паркаў Гомеля...
Dies Domine
ва ўсе часы падымаў краіны
з руінаў
фанабэрыстых урачыстасьцяў
ды нячыстасьцяў.
Але старанна рыхтуецца праверка
фаервэрку, —
набліжаецца момант вялікага фурору
у адборы
прасторы лірычнаму гоману НІВЫ —
простай ДАНІНЫ.

* Dies Domine (лат.) — Дзень Госпада

### Аляксандар ЗАВАДЗКІ

* * *

Сапраўдныя ваяры
за праўду йшлі
дабром жылі

Сапраўднае жыцьцё
праз сон

Удыхнулі жыцьця
сад
У вялікім пяднаньні
часу

### Янка ЛАЙКОЎ

**БЯЗ ВАС**

Бяз Вас мне не спачыць уночы зноў,
Бяз Вас не прычакаю я адхланьня,
Прасякнуты адно тугой скразной,
Самотна сустракацьму промні раньня.

Бяз Вас душа мая — бяскрылы птах,
Што, абнядужаны, у вярыгах гіне.
Зьняверaны, на голаў сыплю прах,
І крык мой у пустэльні марна стыне...

І ў чарадзе нямых, сьцюдзёных дзён
Згасаю, быццам ветах на дасьвецьці...
Бяз Вас жыцьцё — адзін падман і сон,
Няўхільнае зьнікненьне ў апрамецьці.

Я воблік Ваш і праз смугу гадоў
Чало схіліўшы, моўчкі прыгадаю:
Прымроіцца ва ўсьмешцы маладой
Лагода і цнатлівасьць маладая.

### Андрэй ВАЛОШКА

* * *

Як даўно не чытаў "Нашай Нівы":
Разгарнуў на восьмай старонцы,
А там —
Вершы.

* * *

Сьцямнела раптам.
Дзьве маланкі,
бы матчыны рукі ў ночвах зь бялізнай.
Бацька гром бразнуўся з хмары.
Потым зь неба рынулася вада.
Ізноў маланкі, маланкі
І грооом...
Вераб'іная ноч распачала жнівень.

### Віталь ПСЭЎДОНІМ

* * *

*Мала вар'яцтва ў нашай паэзіі.*
**Пімен Панчанка**

Мала
вар'яцтва
ў вашай
паэзіі.
Мала
паэзіі
ў вашым
вар'яцтве.
"STOP!
Бум-Бам-Літ!
Куды
палезьлі?!
Тут
трэба плакаць,
а вы —
сьмяяцца".
Соцень
пяць
у Саюзе
пісьменьнікаў.
Кожны
лічыць:
"Канечне,
зашмат.
Колькасьць
эспэўскіх
нашых
цэньнікаў
Трэба
пакінуць
штук
пяцьдзясят".
Вы
сярод іх
і сабе
ў тым ліку
"Зорак"
паставіце
сьціпленька
дзесь,
Быццам
стварылі
вышэйшую
лігу:
Хочаш
пралезьці,
спрабуй —
пралезь.
Вашых
рэдакцыяў
пах —
кан'юнктурны,
Лякмусам
сьведчыць
гэты
памфлет.
Вашы
рэдакцыі —
вашы
турмы.
Сябра
СП —
яшчэ
не паэт.
Я
аддаю
даніну
Саюзу,
Хоць
наганяе
ён часта
нуду.
Ёсьць
чалавек,
закаханы
ў Музу,
Толькі
я
ў ваш Саюз
не пайду.

### Віка ТРЭНАС

**ПАПЛАЧ ЗА БЕЛАРУСЬ**

паміж іншымі
я не казала яшчэ нічога
пра Беларусь
і ня буду казаць
бо пачуцьця ў сэрцы
дастаткова
каб сядзець моўчкі
хаваючы ногі
ў чырвонай траве
не кажы нічога
пра Беларусь
проста паплач
за яе

### Літаратурны сэмінар "Варштаты"

**Міколу Яўмененку.** У "Чарнобыльскіх хмарах" думкі правільныя. Можа, з-за гэтага верш цалкам і не атрымаўся.

**Аляксандру Антончыку.** "Мроі" ў Вас цікавыя. Але ў іх не стае асабіста Вашых мрояў, якія б не паўтаралі іншых. Шукайце свае словы і радкі. І будзьце сьмялейшымі ў сваіх мроях!

**Аляксандру Каганаву.** Паэма не атрымалася. Чытайце клясыку! І лепш пішыце кароткія творы.

**Сержуку Лескіцю.** У вершах ёсьць добрыя радкі, але іх малавата, каб творы былі надрукаваныя. Пачытайце Багдановіча.

**Міхасю Южыку.** Верш нядрэнны. Але варта было б яшчэ над ім папрацаваць.

**Сымону з Пружан.** Не пішыце вершаў пра тое, што дрэнна жывецца, бо гэта бачна й бязь вершаў. Слухайце ўсіх, але свой розум не губляйце. У паэзіі павінна быць фантазія, а так — гэта звычайная рыфмаваная газэтчына.

**Віктар Шніп**

